№ 30 (915) 12 жніўня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**



## Механіка рабства

Пра побыт і норавы сучаснай беларускай турмы піша зняволены анархіст Ігар Аліневіч. **Старонка 12.**

# Дэманстратыўнае варварства

З 6 жніўня Расія пачала знішчаць выяўленыя прадукты з Еўропы. Паказная рашучасць адцягвае ўвагу ад новага падзення расійскага рубля і абвалу эканомікі ў другім квартале на 4,8%.



ONLINER.BY

Расійскія ўлады працягнулі эмбарга на пастаўкі прадуктаў з краін, якія трымаюць супраць Расіі санкцыі ў сувязі з сітуацыяй ва Украіне і анексіяй Крыма. Пастаўшчыкі спрабавалі абысці абмежаванні, грузавікі ехалі з якасным таварам, але адсутнымі ці падробленымі дакументамі.

Змагацца з кантрабандай вырашылі паказушна — сыры ўкатваюць у зямлю бульдозерам, а мяса паляць разам з аўтамабільнымі шынамі.

Аднак папулісцкая акцыя абурыла расійскае грамадства. У інтэрнэце 350 тысяч чалавек выказалі пратэст у сувязі са знішчэннем свежых прадуктаў і выступілі за перадачу іх грамадзянам, якія жывуць у нястачы.

«Навошта нам знішчаць свежыя еўрапейскія прадукты, якімі можна накарміць ветэранаў, пенсіянераў, інвалідаў, шматдзетных, пацярпелых ад прыродных катаклізмаў і іншых, хто мае патрэбу?» — задаюць пытанне яны.

**Працяг на старонцы 2.**




На пікет 11 жніўня Віктар Цярэшчанка прыйшоў у вышымайцы.

УЛАДЗ ШВЯДОВІЧ

## Кандыдаты, ад якіх бачылі толькі пару пікетаў, сцвярджаюць, што сабралі 100 тысяч подпісаў

Зборшчыкі Цярэшчанкі не ведаюць погляды кандыдата. А сам ён на пытанне карэспандэнта «Нашай Нівы» ледзь узгадаў сваё месца працы. **Старонка 5.**



## Валерый Булгакаў: Лукашэнка хваліць толькі тых супернікаў, якія не маюць палітычнай будучыні

**Старонка 4.**



## Сяргей Калякін: «Без Расіі мы будзем голыя і босыя»

**Старонка 5.**

## Да 50-годдзя Алеся Пушкіна дачка падарыла яму ўнука

А сам мастак плануе тачку з ружамі. **Старонка 13.**

## Як гарэла Беларусь у 1984 годзе

«Аднойчы ў СССР» – піша Сяргей Ваганаў. **Старонка 15.**

# Расія знішчае заходнія прадукты

Працяг са старонкі 1.

Міністр сельскай гаспадаркі Расіі Аляксандр Ткачоў паспрабаваў апраўдацца. Маўляў, санкцыйная прадукцыя сумненнай якасці. «Мы не можам дазволіць, каб яна пастаўлялася ў крамы, мы не можам рызыкаваць здароўем нашых грамадзян», — заявіў ён.

Пры гэтым, тлумачачы, чаму прадукты нельга раздаць маламаёмасным расейцам, Ткачоў не згадаў пра небяспеку гэтых прадуктаў для здароўя бедных. Са слоў Ткачова, прадукты не могуць быць размеркаваныя сярод маламаёмных з-за небяспекі карупцыі: «Калі гэтыя прадукты будуць размяркоўвацца, то дзе гарантыя, што не будзе карупцыі, перавышэння паўнамоцтваў?»

Жыхары прымежных вёсак тым часам зладзілі сапраўднае паляванне на нераздушаныя персікі. Пакуль ніхто не атруціўся.

**Ягор Марціновіч**

**Хто выйграў, а хто прайграў?**

Еўракамісія падвяла вынік: за год пасля ўвядзення расейскага прадуктовага эмбарга экспарт харчавання вырас на 5% (4,8 мільярда еўра). Хоць па шэрагу кірункаў, на якіх Расея была галоўным спажыўцом, зафіксаваны спад 10—12%, эмбарга «скаланула» і вытворцаў, і заканадаўцаў і актывізавала працу па выхадзе на новыя рынкі.

У прыватнасці, экспарт у Кітай, Турцыю і Егіпет вырас на 20—30%.

У Расіі ж эмбарга прывяло да росту цэн.

## Жыхары Смаленшчыны збіраюць недадушаныя санкцыйныя прадукты

Фота беларускага рэпарцёра сабрала **дзясяткі тысяч рэпостаў** у Расіі.

Толькі з фэйсбука тэлеканала «Дождь» здымак за некалькі гадзін перапосцілі каля 9000 чалавек. Агулам колькасць перапостаў вылічваецца дзясяткамі, а заўтра можа дасягнуць соцень тысяч. Гэта абсалютны рэкорд для работы беларускага рэпарцёра.

Пасля знішчэння санкцыйных прадуктаў жыхары Смаленскай вобласці Расіі збіраюць недадушанае. Гэтае фота рэпарцёр «Комсомольской правды в Беларусі» Генадзь Мажэйка зрабіў 7 жніўня. Па ягоных словах, ён адправіўся за мяжу Расіі адразу па вяртанні з адпачынку на Чорным моры.

Рашэнне пра знішчэнне прадуктаў выклікала масавае абурэнне нават у расійскім грамадстве.

**Сяргей Гезгала**



## «Не па-людску гэта»

Журналісты «Нашай Нівы» правялі апытанне ў Мінску: як беларусы ставяцца да знішчэння прадуктаў у Расіі.



Адмоўна стаўлюся! Свет галадае — хапае краін, дзе праблемы з ежай. І каб знішчаць яе… Гэта няправільна.



Вазьміце і адпраўце той харч у нашмат бяднейшыя краіны — Сірыю, Эфіопію, дзе цяперака гуманітарныя катастрофы, калі самі баіцеся. Няўжо ў Расіі сапраўды думаюць, што Еўропа хоча іх усіх атруціць?



Кепска ў Расіі зрабілі. Ну ладна яшчэ сыры — яны, гіпатэтычна, маглі быць няякаснымі. Але персікі? Як яны могуць быць няякаснымі? Хапае дзяцей у дзіцячых дамах, якія тыя персікі ў вочы не бачылі. Хай бы ім аддалі. А то абы-што робяць.



Знішчэнне прадуктаў — гэта справа расіян. І калі іх гэта задавальняе, то пра што тут гаварыць? Не ведаю, праўда, як далёка гэта можа зайсці.



Хапае людзей, якія гатовыя есці нават непрыдатныя прадукты. Зрабіце ўцэнку і танна прадайце той сыр. Але навошта па ім катком?



З аднаго боку, гэта кепска, не пагаспадарску, але з іншага боку — як вы сабе ўяўляеце размеркаванне тых прадуктаў? Вось нейкая жанчына ці мужчына сядзе і будзе гэтым займацца? Вядома, што ўсё раскрадуць, і нічога да тых, хто галадае, не дойдзе.



Не па-людску гэта. Каб той жа сыр зрабіць, трэба кароў выгадаваць, пасці іх, даіць, малако на фабрыку вазіць, іншыя працэдуры. Гэта ж праца людская абясцэньваецца. Таму я мяркую, што гэта няправільна. Трэба канфлікты памяркоўна вырашаць, а не так.

**Арцём Гарбацэвіч, Мікіта Недаверкаў**

## Кітайскі Цэнтрабанк правёў дэвальвацыю юаня

Даведачны курс юаня быў зніжаны **на рэкордныя 1,9%**.

Гэта найбольшае дзённае падзенне кітайскай валюты за два дзесяцігоддзі. Такім чынам кіраўніцтва краіны спрабуе пераламаць негатыўныя тэндэнцыі ў кітайскай эканоміцы, якая знізіла тэмпы і пагражае сьслізнуць у дэпрэсію.

Рэгулятар называе гэта дзеянне «аднаразовай карэкцыяй» і тлумачыць новым спосабам кантролю за курсам абмену. На фоне рашэння аб дэвальвацыі юаня даляр у адносінах да кітайскай валюты падняўся да ўзроўню трохгадовага максімуму.

У кітайскай эканоміцы назапасілася мноства праблем. Агульная запазычанасць дзяржавы, рэгіянальных уладаў, прадпрыемстваў, банкаў і прыватных асобаў дасягнула 282% ад ВУП, што больш за аналагічны паказчык у ЗША і Нямеччыны. А галоўнае, што рост заробкаў павысіў сабекошт прадукцыі, і Кітай страціў ранейшыя канкурэнтныя перавагі.

Эканамісты прагназуюць Кітаю вялікія эканамічныя праблемы ў найбліжэйшым часе, і малая дэвальвацыя юаня — толькі адна з першых ластавак.

**Сяргей Гезгала**

## Зняцце санкцый з Ірана апусціць нафтавыя цэны на $10

Эксперты Сусветнага банка прагназуюць зніжэнне сусветных цэнаў на нафту ў наступным годзе.

«Поўнае вяртанне Ірана на сусветны рынак у канчатковым выніку дадасць прыкладна мільён барэляў нафты ў дзень, знізіўшы цэны на $10 за барэль у наступным годзе», — гаворыцца ў дакладзе міжнароднага фінансавага інстытута.

Вытворчасць нафты ў Іране значна перавышае ўнутранае спажыванне, таму выхад Тэгерана на сусветны рынак нафты непазбежны, адзначаецца ў дакладзе.

«Роўна як і ўзмацненне жорсткасці санкцый у 2012 годзе прывяло да рэзкага зніжэння экспарту іранскай нафты і двух гадоў адмоўнай дынамікі, зняцце санкцый, па нашых чаканнях, паскорыць экспарт і ажывіць эканоміку», — каментуе прагноз галоўны эканаміст фінансавага інстытута па Блізкім Усходзе і Паўночнай Афрыцы Шанта Дэвараян.

**СГ**



### Сціcла

**Нагляд над Аўтуховічам працягнулі на паўгода**

Спачатку суд Ваўкавыскага раёна вырашыў не падаўжаць прэвентыўны нагляд над былым палітвязнем. Аднак пасля пратэсту выканаўцы абавязкаў пракурора рашэнне перагледзелі, прычым у адсутнасць Аўтуховіча. Палітвязень быў шпіталізаваны з гіпертанічным крызам.

**Патанулі бацька і сын**

Трагедыя адбылася на возеры паблізу вёскі Олтуш у Маларыцкім раёне. 31-гадовы сын, які не ўмеў плаваць, зайшоў у ваду і пачаў тануць прыкладна за 60 метраў ад берага. Яго 59-гадовы бацька кінуўся на дапамогу. У выніку абодва патанулі.

**Беларус вернецца ў космас**

43-гадовы ўраджэнец Чэрвеня Алег Навіцкі паляціць у 2017 годзе. Ён ужо быў у космасе ў 2012—2013. Як і тады, так і зараз ён паляціць ад імя Роскосмаса. Навіцкі — герой Расіі.

**У Іспаніі мужчына застрэліў жонку-беларуску**

Трагедыя адбылася на мінулым тыдні ў курортным горадзе Кастэльдэфэльс у Каталоніі. 61-гадовы Рыкарда Ф., ураджэнец Уругвая, спачатку забіў сваю 45-гадовую жонку з Беларусі, затым дваіх дзяцей, а пасля гэтага скончыў жыццё самагубствам.

**Макей на пяць дзён ляціць ва Украіну**

Візіт кіраўніка беларускага МЗС будзе доўжыцца 12—16 жніўня. Як паведамілі ў прэс-службе ўрада Украіны, у рамках візіту ў Кіеў запланавана яго сустрэча з украінскім калегам Паўлам Клімкіным. Плануецца, што ў першы дзень візіту кіраўнік МЗС пагутараць з прадстаўнікамі СМІ.

**АА, ЯМ**

### Апытанне на nn.by

**Як вы думаеце, знішчаць ці выкідаць прадукты — грэх?**

| | | |
|---|---|---|
| Так, грэх | 846 | 74% |
| Не, не грэх | 22 | 2% |
| Мае дзяды думалі, што грэх, але гэта былі перажыткі-забабоны | 38 | 3% |
| Гэта эканоміка | 49 | 4% |
| Ваяваць — больш грэх | 189 | 17% |

Прагаласавала 1144 чалавекі

### Самае чытанае на nn.by за 5—11 жніўня

# Прэтэндэнты мераюцца лічбамі

Гайдукевіч і Цярэшчанка хваляцца **100 тысячамі** сабраных подпісаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Аляксандр Лукашэнка не застанецца без супернікаў на выбарах 11 кастрычніка. Аб дасягненні мяжы ў 100 тысяч подпісаў адчыталіся Віктар Цярэшчанка і Сяргей Гайдукевіч. Трэці спарынг-партнёр, «атаман» Мікалай Улаховіч, ужо на падыходзе — сцвярджае, што ў кішэні пад 80 тысяч подпісаў. І гэта на фоне сезона адпачынкаў, анамальнай спёкі і апатыі грамадства! Да вас прыходзілі іх ініцыятыўныя групы?

Подпісы яшчэ не праходзілі праверку ў Цэнтрвыбаркаме, але можна ўжо цяпер паразважаць, ці адпавядаюць рэчаіснасці лічбы, якія агучваюць патэнцыйныя кандыдаты.

**Лукашэнка — 540 тысяч**

У ініцыятыўную групу Аляксандра Лукашэнкі запісалі больш за 10 тысяч чалавек. Збор подпісаў ідзе па некалькіх франтах. На інтэнэт-форумах работнікі дзяржаўных установаў сведчаць пра даведзеныя нарматывы: колькі чалавек павінна падпісацца за кіраўніка краіны.

Апроч таго, сотні актывістаў стаяць у пікетах, часам ходзяць па кватэрах. Гэтым займаюцца прадстаўнікі «Белай Русі», Камуністычнай партыі, Саюза жанчын і прафсаюзаў.

Даходзіць да абсурду. На пляцоўцы перад Камароўскім рынкам суседнічаюць адразу два-тры пікеты ў падтрымку Лукашэнкі. У першыя дні яны карысталіся попытам, але цяпер, калі падпісаліся ўсе ахвотныя, зборшчыкі сумуюць пад парасонамі, прыкрываючыся ад спёкі. Усе ўдзельнікі адзначаюць, што лукашэнкаўцы добра экіпіраваныя.

Колькі ўдаецца сабраць подпісаў? Ларыса Таркіна стаіць у пікеце ў цэнтры Брэста. Жанчына прызнаецца, што яе найлепшы «ўлоў» за дзень — 60 подпісаў.

А вось намеснік дырэктара сталічнай гімназіі Антон Радкевіч хваліцца, што сабраў за вечар... 208 подпісаў! Гэтая лічба немагчымая: яму б даводзілася штохвілінна запісваць новага выбарцу.

Тым часам Беларускае тэлебачанне, насуперак закону, фактычна пачало агітацыйную кампанію ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. Па нядзельных вечарах у эфіры ідзе аднабаковы дакументальны фільм «Беларусь XXI», у ім расказваецца, як «змянілася краіна за два дзесяцігоддзі суверэннай гісторыі». «21» — колькасць гадоў Лукашэнкі ва ўладзе.

**Віктар Цярэшчанка — 120 тысяч**

Навуковец-эканаміст, як сябе называе Віктар Цярэшчанка, збіраў каманду зборшчыкаў у апошні момант. Ягоныя прадстаўнікі шукалі студэнтаў, якія хочуць падзарабіць. Нанятыя маладзёны не ведаюць праграму свайго кандыдата (падрабязна на с. 5). Зрэшты, аплата іх працы невысокая.

Штаб Цярэшчанкі выставіў дзясяткі пікетаў у Мінску, яшчэ некалькі дзясяткаў у рэгіёнах. Аднак падпісантаў каля іх не відаць. Просты эксперымент каля сталічнага ГУМа: за дзве гадзіны подпісы пакінулі 2 чалавекі.

Дэклaруецца, што актыўней за іншыя вобласці подпісы збіраюцца на Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

**Сяргей Гайдукевіч — 100 тысяч**

Гайдукевіч абраў выгадную стратэгію: робіць выгляд, што подпісы збіраюцца выключна па кватэрах. А таму і пікетаў у яго падтрымку няма. Прэтэндэнт сцвярджае, што стаяць у пікетах няма сэнсу. А вось абыход пустых летніх кватэр як быццам бы дае плён.

Гайдукевіч даводзіць, што ў ягоную партыю запісаныя каля 45 тысяч чалавек. Перанос іх дадзеных у падпісныя лісты мог бы даць палову ад патрэбнай колькасці.

**Мікалай Улаховіч — 79 тысяч**

Штаб атамана сцвярджае, што большасць галасоў атрымана падчас абыходу кватэр — 85—90% ад агульнай колькасці. Вось толькі зборшчыкаў казацкага кандыдата не бачыў ніхто (глядзі вынікі апытання).

У вулічных пікетах жа нібыта сабрана каля 10 тысяч подпісаў. Пікеты Улаховіча былі адзінкавыя, дый тыя не карысталіся попытам. За першую палову суботы на адным з самых прахадных месцаў Мінска, Камароўскім рынку, удалося падпісаць з дзясятак чалавек.

Што да разбіўкі па рэгіёнах, то казацкія актывісты ёсць у Мінску і Мінскай вобласці, а таксама на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. У заходняй Беларусі актыўнасці казацкага кандыдата зусім няма.

**Таццяна Караткевіч — 75 тысяч**

Штаб прэтэндэнткі мяркуе, што патрэбная лічба подпісаў усё ж будзе сабрана. Кіраўнік ініцыятыўнай групы Андрэй Дзмітрыеў кажа, што колькасць пакінутых галасоў штодня прырастае на 5 тысяч чалавек.

Прадстаўніца «Гавары праўду» і кааліцыі «Народны рэферэндум» мае пікеты ў буйных гарадах, часцяком збор вядзецца пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Аднак чэргаў з ахвотных падпісацца не відаць.

Зборшчыкі кажуць, што атрымліваюць каля 5 тысяч рублёў за подпіс, таму зарабіць вялікія грошы ім сёлета не ўдасца.

**Сяргей Калякін — 54 тысячы**

Мяркуючы па лічбах, якія агучваюць прыхільнікі камуніста, у Калякіна мінімум шанцаў убачыць сваё імя ў выбарчым бюлетэні. Карэспандэнт «НН» правёў адзін дзень з лідарам «Справядлівага свету» — падрабязнасці на с.5.

**Анатоль Лябедзька — 50 тысяч**

Адзіны прэтэндэнт, які ў адкрытую крытыкуе Аляксандра Лукашэнку, наўрад ці дойдзе да рэгістрацыі кандыдатам.

Анатоль Лябедзька падкрэслівае: у адрозненне ад іншых палітыкаў, дамалёўваць подпісы ён не збіраецца, а ўсе ягоныя актывісты — валанцёры. Добра калі набярэцца дзве-тры сотні актыўных зборшчыкаў у падтрымку лідара АГП.

Лябедзька выкарыстоўвае магчымасці перадвыбарчай барацьбы для папулярызацыі сваіх ідэй. Пікеты АГП стаяць пад нацыянальнымі сцягамі, а сам палітык праводзіць акцыі салідарнасці з палітвязнямі і зніклымі палітыкамі.

**Ягор Марціновіч**

**Лябедзька: калі зарэгіструюць кандыдатам, здымуся на апошнім этапе выбараў**

«Збярэм 100 тысяч ці не, істотна гэта не паўплывае на тое, што мы будзем рабіць. Для нас галоўнае ў гэтай кампаніі — камунікацыя з людзьмі, нам важна данесці наша пасланне да як мага большай колькасці людзей, гэта тыя дзверы, якія прыадчыніліся, у якія мы ўвайшлі. Я думаю, што 12 кастрычніка гэтыя дзверы зачыняцца, і, пакуль час ідзе, мы гэты час выкарыстоўваем», — растлумачыў журналістам у Гомелі Лябедзька. Палітык таксама паведаміў, што пры ўмове рэгістрацыі на апошнім этапе выбараў будзе здымаць сваю кандыдатуру.

# «Рэальных подпісаў яны ніколі не збяруць»

**Павел Знавец** не верыць у лічбы сёлетніх «кандыдатаў».

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Павел Знавец удзельнічаў ва ўсіх прэзідэнцкіх кампаніях апошняга часу. У 2010 годзе ён падтрымаў Яраслава Раманчука. Штодзённы пікет Знаўца знаходзіўся на Камароўскім рынку і сабраў 2655 подпісаў — рэкорд сярод дэмакратычных актывістаў. Ён мяркуе, што сёлетнія кандыдаты нават тэарэтычна не могуць набраць патрэбныя лічбы.

**«Наша Ніва»: Спадар Павел, як вы ацэньваецца заявы Гайдукевічаў-Цярэшчанак-Улаховічаў, якія сцвярджаюць, што сабралі патрэбныя 100 тысяч подпісаў?**

**Павел Знавец:** У 2006 годзе трэ' было штампаваць падпісныя лісты ў райвыканкамах. І ў Маскоўскім райвыканкаме я за руку злавіў, як раскладвалі лісты за Лукашэнку і перапісвалі дадзеныя ў лісты за Гайдукевіча. Я кажу: «Што ж вы робіце?» Яны мяне і выгналі... Мне здаецца, ні ў адну сваю кампанію Гайдукевіч не сабраў больш за 2000 подпісаў.

Што тычыцца Цярэшчанкі... Гэта мой былы калега па Вярхоўным Савеце. Перш чым задаць пытанне, ён дзесяць разоў прасіў прабачэння ў Лукашэнкі. Рэальных подпісаў Цярэшчанка ніколі не збярэ, максімум 1—2 тысячы. Ну, а ражаны атаман — гэта ўвогуле нуль подпісаў.

**«НН»: А ў апазіцыйных палітыкаў рэальныя лічбы?**

**ПЗ:** У Караткевіч сітуацыя лепшая, якія-ніякія грошы зборшчыкам падплочваюць. Але ўсе разумеюць, што гэта «фэйкавая» фігура.

Што да Калякіна і Лябедзькі, я лічу, што яны колькасць сабраных подпісаў памнажаюць удвая-утрая. Яны могуць сабраць рэальных 20 тысяч подпісаў, пры велізарных намаганнях — 30 тысяч. Але спадзяюся, Калякін і Лябедзька не пойдуць на чатырохразовы падман выбаршчыкаў і не будуць удзельнічаць далей.

**«НН»: Ваш прагноз: колькі працэнтаў галасоў атрымаюць кандыдаты, якія дойдуць да выбараў?**

**ПЗ:** Я чуў інфармацыю, што нібыта гайдукевічцы прапаноўвалі, каб яму налічылі 10%, а ў Лукашэнкі было 70—75%. Але ж Лукашэнка хоча 90%!

**Гутарыў Ягор Марціновіч**

**Апытанне на nn.by**

**Чые зборшчыкі подпісаў прыходзілі да Вас?**

| | | |
|---|---|---|
| Нікога не было | 400 | 73% |
| Аляксандр Лукашэнка | 101 | 19% |
| Таццяна Караткевіч | 18 | 3% |
| Сяргей Гайдукевіч | 9 | 2% |
| Анатоль Лябедзька | 8 | 1% |
| Сяргей Калякін | 6 | 1% |
| Віктар Цярэшчанка | 6 | 1% |
| Мікалай Улаховіч | 2 | 0% |

Прагаласавалі 541 чалавек, можна было выбіраць некалькі варыянтаў



# Дармаеды ў законе

«Пазаштатныя работнікі «Амкадора», — іранізуе Анатоль Лябедзька ў сябе ў фэйсбуку і дадае: — Бдзяць. Дармаеды ў законе». **На фота** — асобы ў цывільным, якія пільнуюць каля пікетаў апазіцыйных у прэзідэнты.

# Валерый Булгакаў: Лукашэнка хваліць слабых кандыдатаў

На пытанні пра **хаду прэзідэнцкай кампаніі** адказвае галоўны рэдактар часопіса *Arche* Валерый Булгакаў.



**«НН»: На прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў незалежных СМІ Лукашэнка пахваліў старшыню ТБМ Алега Трусава і кандыдатку ад «Гавары праўду» Таццяну Караткевіч. Ці невыпадкова Лукашэнка звярнуў увагу менавіта на патрыятычна арыентаваных палітыкаў?**

**Валерый Булгакаў:** Лукашэнка хваліць слабых палітыкаў, якія не маюць палітычнай будучыні. Безумоўна, гэтых палітыкаў можна ўспрымаць як носьбітаў нацыянальных каштоўнасцяў, хаця ў выпадку Таццяны Караткевіч гэта і выклікае шмат пытанняў. Але і Трусаў, і Караткевіч належаць да тых апанентаў улады, якія ёй вельмі выгадныя. Караткевіч я ўспрымаю як тэхнічнага кандыдата, які ўдзельнічае ў выбарах не для таго, каб перамагаць, а робіць стаўку на новыя спосабы камунікацыі з выбарцамі, на тое, што раней беларускія палітыкі не бралі на ўзбраенне. Што тычыцца Алега Трусава, то, пры ўсёй павазе, гэты чалавек даўно ў актыўнай палітыцы не ўдзельнічае. Вельмі характэрна, што сёлета яго паплечніца па ТБМ Алена Анісім нясмела і безвынікова заяўляла пра свой намер узяць удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Словы Лукашэнкі, з аднаго боку, будзяць спадзяванне на новы курс, з другога — грунтуюцца на цынічных палітычных разліках.

**«НН»: А ці не могуць згаданыя структуры і палітыкі заняць нішу сістэмнай апазіцыі, пра якую так доўга кажуць?**

**ВБ:** У ТБМ такой місіі ніколі не было. ТБМ рабіла стаўку на камунікацыю з уладай, каб дасягаць мікрапоспехаў у беларусізацыі краіны. Мне цяжка ўявіць, каб гэтае грамадскае аб'яднанне перайшло ў стан сістэмнай апазіцыі.

Што датычыць «Гавары праўду», то я не бачу ў гэтым праекце беларускага карэння. Па-мойму, гэта інсціраваны заходняй супольнасцю праект. Я вельмі сумняюся, што за «ГП» стаіць сур'ёзная сацыяльная база. Цяпер сістэма паспяховасці ці непаспяховасці палітычных кампаній робіцца па ўскосных паказчыках. «ГП» — не тая кампанія, якая можа і хоча перамагаць, гэта кампанія, якая мае лідарства ў галіне згадак у прэсе, працы ў сацыяльных сетках. У ідэалагічным сэнсе за гэтай кампаніяй крыецца пустата. Больш за тое, адзін з лідараў «ГП» Андрэй Дзмітрыеў цалкам дыскрэдытаваў сябе пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў, ён

## Маральныя якасці Анатоля Лябедзькі выклікаюць злобу і нянавісць кіраўніцтва краіны

не мае ніякіх маральных падставаў актыўна ўдзельнічаць у беларускай палітыцы.

Такая ацэнка Лукашэнкі, нешта падобнае гаварыла і Ярмошына, сведчаць пра імітацыйны статус кампаніі «ГП».

Гэта ўвогуле шырокая праблема. Поспех «Гавары праўду» адбываецца на фоне дэвальвацыі палітычных партый. На такім дэпрэсіўным фоне з'яўляюцца ініцыятывы, якія бяруць не вернасцю ідэалагічным дактрынам, а хутчэй стаўкай на інавацыйнасць.




ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Юрый, студэнт, актывіст. Збірае подпісы ў пікеце на Нямізе за Караткевіч.

**«НН»: З іншага боку, дзяржаўная прапаганда крытыкуе Анатоля Лябедзьку.**

**ВБ:** Добрых словаў не дастаецца і Міколу Статкевічу, на яго выварочваюцца ўсё новыя порцыі бруду. Паказальна, што, нягледзячы на ўсе спекуляцыі аб вызваленні, яго па-ранейшаму не выпускаюць.

Калі «Гавары праўду» робіць сабе імідж канструктыўнай апазіцыі, то на гэтым фоне АГП і Анатоль Лябедзька выглядаюць больш радыкальна. Лябедзька не скарыўся, не зламаўся, у адрозненне ад Андрэя Дзмітрыева. Больш за тое, АГП аказалася здольная да кадравага ачышчэння, выключэння з партыі Яраслава Раманчука. Я схільны звязваць кампанію ачарнення Лябедзькі не з тым, што АГП — самая эфектыўная структура, а таму што этас, маральныя якасці Анатоля Лябедзькі выклікаюць злобу і нянавісць кіраўніцтва краіны.

**«НН»: Ці можна казаць, што Гайдукевіч, Цярэшчанка і Улаховіч — гэта адна і тая ж з'ява на гэтых выбарах? Якую ролю яны выконваюць?**

**ВБ:** Цяжкое пытанне. Мы не ведаем усяго закуліснага боку выбараў. Тое, што Сяргей Гайдукевіч — вечны кандыдат, які не крытыкуе Лукашэнку, прымушае яго ўспрымаць прынамсі як талераванага ўладамі палітыка. Ён набірае некалькі працэнтаў, адцягвае частку выбарцаў ад сапраўды дэмакратычных кандыдатаў. На гэтым палягае яго функцыя.

Віктар Цярэшчанка паходзіць з нетраў лукашэнкаўскай сістэмы, ён працаваў у Адміністрацыі прэзідэнта. Ягоная палітычная місія да канца незразумелая. Незразумела, хто за ім стаіць. Калі ЛДПБ сапраўды ёсць нейкія члены, то за Цярэшчанкам нібыта нікога і няма.

Улаховіча можна смела залічваць у спіс палітычных фрыкаў, якія ўносяць элемент карнавальнасці ў кампанію. Аналітыкі слушна заўважылі, што ягоная база зборшчыкаў подпісаў нагадвае лукашэнкаўскую. Можна казаць, што ён самы прарасійскі, самы антызаходні кандыдат, які бярэ ўдзел у кампаніі.

Іх існаванне не ідзе ў разрэз з генеральнай лініяй партыі. Мэты могуць стаяць розныя: ад дэзарыентацыі да прафанацыі.

**«НН»: Ці не нагадваюць Вам сёлетнія выбары сярэднеазіяцкія, як у Казахстане ці Таджыкістане, дзе кандыдатаў таксама шмат, але ніхто з іх не крытыкуе дзейнага прэзідэнта?**

**ВБ:** У Казахстане некаторыя кандыдаты спрабавалі выглядаць псіхічна неўраўнаважанымі.

У Казахстане ніхто не рэгіструе рэальна апазіцыйных кандыдатаў. Беларуская адметнасць у тым, што, сабраўшы 100 тысяч подпісаў, можам атрымаць статус кандыдата.

Але калі такіх людзей набіраецца 5—10, то дэмакратычна настроенаму выбарцу вельмі цяжка вызначыць, хто стаіць у сапраўднай апазіцыі, а хто толькі перацягвае галасы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Лукашэнка: У Трусава хітраватая ўсмешка, але ён шчыры

Аляксандр Лукашэнка сказаў, што хацеў бы бачыць кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі старшыню ТБМ Алега Трусава.

«Я да яго добра стаўлюся, і з ім я б сеў за стол размаўляць, таму што ён, па-мойму, заўсёды быў шчырым, калі пра штосьці казаў. Хітраватая ўсмешка, але заўсёды быў шчырым», — адзначыў Лукашэнка.

Мы папрасілі Алега Трусава пракаментаваць гэтыя словы: «Я нармальна паставіўся, бо з Лукашэнкам даўно знаёмыя. Удзел у выбарах маёй каманды магчымы толькі, калі выбары будуць сапраўдныя (!) і галасы будуць лічыць. Мы рыхтуемся да такой сітуацыі. Сакратарыят ТБМ даслаў свае прапановы па пашырэнні беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсім удзельнікам прэзідэнцкай кампаніі, і Лукашэнка іх ведае. Мяч на яго палове поля».

**ЗП**

## «Ідзі адсюль, пятая калона!»

У цэнтры Мінска камуністы збіраюць подпісы за Лукашэнку **пад сцягам СССР**.

Чарговы пікет у падтрымку дзейнага кіраўніка краіны быў заўважаны ля ГУМа. Здзівіла толькі, што побач з цяперашнім дзяржаўным сцягам лунаў яшчэ і савецкі — чырвоны, з сярпом і молатам.

Высветлілася, што ў пікеце стаяць прадстаўнікі Камуністычнай партыі Беларусі — Андрэй Цвірко і Уладзімір Хіневіч.

На пытанне, што на вуліцах Мінска робіць сцяг СССР, яны адказалі так: «Гэта гісторыя. 70 гадоў гісторыі нікуды не выкінеш. І за 70 гадоў тут зрабілі з сялянскай краіны індустрыяльную. Усе гарады пабудавалі. А казаць пра цану гэтага бессэнсоўна, бо паўсюль цана ёсць, і ў Амерыцы, і ў Францыі...»

Праўда, далей дыялог атрымаўся дзіўнаватым.

**«НН»: А знішчэнне беларускай інтэлігенцыі — гэта што, адэкватная цана?**

**Цвірко:** Вы ведаеце, нельга сказаць, што ў Савецкім Саюзе не было беларускай інтэлігенцыі і не выдаваліся кнігі на беларускай мове...

**«НН»: Вы не адказваеце на пытанне. Знішчэнне інтэлігенцыі — адэкватная цана за індустрыялізацыю?**

**Цвірко:** Я вам скажу так: была барацьба. Белыя расстрэльвалі чырвоных, а бандэраўцы выразалі старшыняў раёнаў.

**«НН»: Калі? Якія бандэраўцы? Я пытаюся пра знішчэнне інтэлігенцыі.**

**Цвірко:** Я не кажу, што гэта адэкватная цана. Я не кажу, што гэтае знішчэнне было.

**«НН»: То бок не было?**

**Цвірко:** Я лічу, што не.

Затым я заўважыў на паперцы аднаго з іх рукапісную пазнаку: «НОД [Нацыянальна-вызвольны рух — расійская шавіністычная арганізацыя] Беларусь. YouTube». Спроба сфатаграфаваць яе выклікала абурэнне. Камуністы адразу перайшлі на «ты» і параілі мне «ісці адсюль», бо я належаў да «сапсаванага пакалення». Высветлілася, што калі я не падпісваюся за Лукашэнку, дык я не магу і піць ваду (сваю!) пад іх парасонам.



Андрэй Цвірко і Уладзімір Хіневіч.

«Ідзі адсюль, пятая калона! Надакучыла ўжо з вамі размовы весці!» — параіў мне зборшчык подпісаў камуніст Андрэй Цвірко.

**Улад Швядовіч**

# Адзін дзень з Сяргеем Калякіным

**Лідар беларускіх левых з аншлагам наведаў Полацк, але не ўразіў віцебскіх рабочых.**

Па дарозе ў Полацк Сяргей Калякін пачынае скардзіцца. Спачатку ён кажа, што Лукашэнка і Лябедзька, між іншым, не зарэгістравалі афіцыйныя рахункі, што фармальна павінна б стаць прычынай для зняцця кандыдата.

«Вядуць незаконную кампанію!» — абураецца ён.

У Полацк, а пасля і ў Віцебск, лідар левых сіл разам з намеснікам Валерам Ухналёвым едуць, каб паўдзельнічаць у перадвыбарчых пікетах. Калякін кажа, што людзі пытаюцца ў зборшчыкаў подпісаў, дзе ж сам кандыдат, вось ён і вырашыў зладзіць некалькі такіх сустрэчаў.

У Полацку іх павінен сустрэць мясцовы актывіст — Леанід Бірукоў. Актывістам аказваецца старэнькі дзядуля з чамаданам, якому відавочна не адзін дзясятак гадоў. Разам яны ідуць да мясцовага Дома гандлю, дзе і раскладваюць свой пікет. На звычайную вуду вешаецца чырвоны сцяг з надпісам «Справядлівы свет» — і ўсё, паехалі.

«Паважаныя, падпісвайцеся! Пастаўце подпіс за будучага кандыдата! Дайце шанец!» — зазывае Калякін.

Спачатку народ падыходзіць не надта ахвотна, але неўзабаве вакол пікета збіраецца міні-натоўп.



Хтосьці падыходзіць пацікавіцца, што ім прапануе чарговы кандыдат, і, паслухаўшы Калякіна, усё ж ставіць подпіс. Хтосьці слухае, але падпісвацца не хоча. Аднак усе дзве гадзіны каля стала «Справядлівага свету» стаяць людзі: калі пяць чалавек, калі пятнаццаць, але стаяць увесь час.

У адрозненне ад пікета ў падтрымку Лукашэнкі, які стаяў побач. Большую частку часу зборшчыкі подпісаў у падтрымку дзейнага кіраўніка краіны сядзяць у самоце.

Сачыць за патэнцыйнымі калякінскімі выбаршчыкамі вельмі цікава. Хтосьці кажа: «Левы? Камуніст, дык гэта яшчэ горш, чым цяпер!» Хтосьці, наадварот, упэўнены, што пры камуністах было лепш. «Стабільнасць была!..» — уздыхае жанчына сярэдніх гадоў.

Большасць тых, хто падпісваецца за Калякіна, — людзі сталага ўзросту, моладзі вельмі мала. Прычым тыя, што падпісаліся, тлумачаць гэта аднолькава: «Мы за ўсіх незалежных ставім подпіс. Бо ўсё адно лепш, чым зараз».

Не абыходзіцца і без фрыкаў. Напрыклад, нечакана ад дагледжанай і добра апранутай жанчыны ў адказ на заклік падпісацца пачуць: «Калякін-Малякін!». А пасля нейкі мужчына падлятае да кандыдата і адразу пачынае крычаць: «Ну што ж ты, Сяргей Іванавіч? Ну, куды ты лезеш? Шанцаў ніякіх няма! Толькі байкот!» Калякін пачынае з ім спрачацца. Мужчына некалькі разоў сыходзіць, потым вяртаецца і працягвае спрэчку. Нарыканцы ўсё ж падпісваецца.

«Ідзі падпішыся», — штурхае жонку ў бок адзін з гледачоў. «А навошта?» — пытаецца тая. «А якая розніца? Табе што, цяжка?» — паціскае плячыма мужчына. Жонка падпісваецца так і не ідзе.

Нярэдка цікавіцца, як Калякін ставіцца да ўсходняга суседа. «Без Расіі мы будзем голыя і босыя», — тлумачыць Калякін, не асабліва ўдакладняючы чаму. Шмат каго такі адказ супакойвае.

— За Расію? — пытае мужчына, які толькі што падыйшоў.

— За Расію, канечне!

— Нармальна. Толькі з Расіяй! — кажа мужчына і ідзе падпісвацца.

За паўтары гадзіны пікет збірае каля 60 подпісаў. Можа, было б і больш, але Калякіну час з'язджаць, трэба паспець у Віцебск.

У Віцебску Калякін з Ухналёвым спачатку наведваюць пікет у цэнтры горада. За імі ўважліва сочаць двое мужчын у бліскучым чорным уазіку, адзін здымае ўсё на відэакамеру. «О, варанок!» — жартуе Калякін.

Затым едуць да прахадной «Віцязя» — там якраз павінна быць перазменка. Каля ўваходу на прадпрыемства ўжо стаіць пікет «Справядлівага свету». Намеснік старшыні абласной арганізацыі партыі Анатоль Родзік, які збірае тут подпісы, скардзіцца, што «Віцязь» прыходзіць у заняпад. Па яго словах, з 8 тысяч рабочых засталося каля тысячы. Дый заробкі падаюць.

Праўда, рабочыя, якія неўзабаве з'яўляюцца, не надта хочуць падпісвацца, нягледзячы на той заняпад. Удаецца сабраць толькі восем подпісаў. Вялікая група маладых людзей даволі доўга стаіць, слухаючы заклікі Калякіна. Той разліваецца: «Што, мужыкі, думаем? Падыходзім, падтрымаем чалавека». Добры быў бы тамада, міжволі думаю я.

Рабочыя сыходзяць, так і не падпісаўшыся. Затое падыходзяць мужчыны з «варанка», нават не хаваючы камеру. Бяруць лістоўку.

**— За Расію?**
**— За Расію, канечне!**
**— Нармальна. Толькі з Расіяй!**

— Падпісвайцеся, — прапануюць ім «калякінцы».

— Пашпартоў з сабой няма, — адказваюць тыя.

Калякін наведвае яшчэ два пікеты. Справа ідзе так сабе, прызнаюцца зборшчыкі. Штодзень яны збіраюць 15—25 подпісаў. З «жывым Калякіным», па іх словах, атрымліваецца ўдвая больш. Але гэтага ўсё роўна мала.

«Мы сабралі прыкладна 50 тысяч. Тэмпы трэба павялічваць. Можам і не паспець сабраць 100 тысяч», — кажа Калякін.

На пытанне, што ж тады, калі збор подпісаў праваліцца, Калякін адказвае спакойна: «Што ж, значыць, нашы ідэі не патрэбныя людзям. Будзем працаваць далей».

**Улад Швядовіч,**
**Полацк—Віцебск—Мінск**

## Калякін: «Адзіны кандыдат не адлюстроўвае інтарэсаў усіх»

**«НН»: Вы не пайшлі ў кандыдаты на папярэдніх выбарах, але ідзяце зараз. Чаму?**

**Сяргей Калякін:** Напэўна, у 2010 мы памыліліся. Трэба было ўдзельнічаць. Атрымалася, што мы страцілі 5 гадоў, згубілі шмат магчымасцей для ўплыву, для працы з людзьмі.

**«НН»: То бок каб вы засвяціліся ў 2010…**

**СК:** Гэта была б раскрутка. Дзякуючы свайму ўдзелу ў той кампаніі БХД раскруцілася фактычна з нуля. Не ўдзельнічаць у выбарах для партыі небяспечна, асабліва ў нашых умовах.

**«НН»: Дык што, сёлета вы ўдзельнічаеце ў кампаніі проста дзеля таго, каб пра вас даведалася як мага больш народу?**

**СК:** Мы паставілі сабе некалькі задач. Калі людзі нас падтрымаюць і мы зможам праз збор подпісаў даказаць, што мы патрэбныя народу, — будзем працаваць на перамогу. Калі гэтага не адбудзецца — будзем вырашаць пытанне вядомасці нашай партыі, абмяркоўваць альтэрнатыўныя шляхі развіцця.

**«НН»: Чаму вы не падтрымалі ідэю з адзіным кандыдатам?**

**СК:** Адзіны кандыдат не адлюстроўвае інтарэсаў усіх, гэта заўсёды кампраміс розных палітычных поглядаў. У 2006 я працаваў у штабе Мілінкевіча, і мы згубілі шмат галасоў, бо невыразна фармулявалі свае пазіцыі. А людзям не трэба ўмоўная «сярэдзіна». Таму некалькі альтэрнатыўных кандыдатаў — гэта лепш. Напрыклад, падчас сумленных выбараў тры незалежныя кандыдаты могуць набраць тыя ж 55%, а ў другім туры дамовіцца, каб пакінуць аднаго.

Я ўпэўнены, што, калі будзе альтэрнатыўны кандыдат і будзе сапраўдны падлік, Лукашэнка не набярэ больш за 50%. То бок абавязкова будзе другі тур. Але ж нармальнага падліку галасоў не будзе. Адпаведна, не будзе прызнання выбараў.

**«НН»: А пасля выбараў што будзеце рабіць?**

**СК:** На Плошчу я нікога клікаць не буду, гэта глупства. У 2010 гэта таксама было глупствам і спрацавала на карысць Лукашэнкі.

**УШ**

# Зборшчыкі Цярэшчанкі не ведаюць поглядаў кандыдата

**Ды і ён сам ледзь узгадвае сваё месца працы.**

На пікеце каля ўнівермага «Беларусь» гойсаюць маладыя людзі ў белых саколках з нацыянальным арнаментам. У руках яны трымаюць тэчкі з партрэтам кандыдата ў прэзідэнты Віктара Цярэшчанкі. Сам кандыдат таксама тут — гутарыць з народам.

Кіраўнік ініцыятыўнай групы Цярэшчанкі, Алег Несцяркоў, запэўнівае, што вышымайкі — гэта іх уласная ініцыятыва, а не спроба прыцягнуць увагу.

«Мы прыцягваем шмат валанцёраў. Гэта маладыя людзі з актыўнай пазіцыяй», — тлумачыць Алег Пятровіч.

Іду да маладых людзей з актыўнай пазіцыяй. Аляксей і Ілля размаўляюць па-руску. Вучацца ў гандлёвым каледжы на другім курсе. Мінчукі.

**— Што вас падштурхнула пайсці ў валанцёры?**

— Зараз... Трэба падумаць... Вырашылі дапамагчы прайсці... Віктару Цярэшчанку...

**— А чаму менавіта яму?**

— Спадабалася яго кандыдатура...

**— А чым спадабалася?**

— Ён эканомік.

**— «Эканомік»?**

— Так...

**— І што гэта дае? Чым ён будзе лепшы за Лукашэнку?**

— Яны мне ўсе падабаюцца... У нашай краіне галасуе народ. Вось я вырашыў дапамагчы Віктару Цярэшчанку...

Нічога не зразумела, але бог з ім. Далей Аляксей расказвае, што пайшоў да Цярэшчанкі, бо ў яго ініцыятыўную групу быў набор — прыходзілі ў каледж, запрашалі. Сцвярджае, што стаіць на спецы бясплатна.

Іншая валанцёрка, Ганна, — першакурсніца БДЭУ. На пытанне, за каго будзе галасаваць, упэўнена сказала, што за Цярэшчанку («бо за яго бацькі галасуюць»). Праўда, расказаць, што яна пра яго ведае і чым ён адрозніваецца ад іншых кандыдатаў, дзяўчына так і не змагла. «Я не ведаю», — сказала яна пасля доўгай паўзы.

Праўда, і сам кандыдат абсалютна варты сваіх зборшчыкаў. Склалася ўражанне, што кіруе працэсам менавіта «Пятровіч» — руплівы Алег Несцяркоў. Бо сам Цярэшчанка нават на пытанні адказвае з праблемамі.

**— Вы эканаміст? А дзе працуеце?**

— Старшыня рады дырэктароў.

**— Якой?**

— Так, дзе тут напісана... *(разглядае ўласны стэнд).*

**— ТАА «ГрандКалендула»?**

— Так! Гэта інвестыцыйныя тэхналогіі. Ноу-хау.

**— Дык а чым займаецеся?**

— Я эканаміст. Займаюся валютнымі, экспартнымі працэсамі. «ГрандКалендула» — гэта прыцягненне інвестыцый, продаж беларускіх тавараў за мяжу: МАЗы, БелАЗы.



Алег Несцяркоў (злева) і Віктар Цярэшчанка.

Затым Цярэшчанка пераблытаў імя і прозвішча дырэктара свайго ТАА (праўда, пазней успомніў).

Потым, калі з'явілася карэспандэнтка БелаПАН і прапанавала яму пераапрануцца ў вышымайку, Цярэшчанка з адчуваннем накавансці ўздыхнуў: «Трэба?»

Несцяркоў кіўнуў, і кандыдата адвялі пераапранацца. Затым, калі ўжо з'язджалі на іншы пікет, Цярэшчанка спачатку некалькі разоў з надзеяй у голасе цікавіўся ў Несцяркова: ну мы ж нядоўга? А потым чамусьці спытаў у мяне: «Мне пераапрануцца ці ў гэтым [у вышымайцы — «НН»] можна?»

**Улад Швядовіч**


Віталь Ціліжанка сябраваў з многімі беларусамі.

# У Данецкай вобласці моцна паранены беларускі баец

Аскепкі міны трапілі ў грудзі, нырку і галаву.

10 жніўня пад Белакаменкай Данецкай вобласці адбылася сутычка паміж баевікамі з аднаго боку і ўзброенымі сіламі Украіны і ДУК «Правы сектар» з другога. У выніку сямёра ўкраінцаў загінула, а яшчэ адзінаццаць атрымалі раненні. Украінская армія панесла самыя цяжкія пасля Дэбальцава страты.

Вядома, што сярод тых, хто атрымаў раненні, і беларус з ДУК «Правы сектар». Сябры пакуль не называюць ягоны пазыўны.

«Так, адзін з нашых беларусаў моцна паранены, — кажа хлопец з ДУКа. — Ён цяпер у рэанімацыі. Стан стабільны, верталётам яго даставілі ў Днепрапятроўск».

Беларус атрымаў раненне з 82-міліметровага мінамёта БМ-37. Аскепкі міны трапілі ў грудзі, нырку і галаву.

Таксама ў баі загінуў украінец Віталь Ціліжанка. Ён меў сяброўскія адносіны з многімі беларусамі, у нашай краіне яго шмат хто ведаў.

«Віталік не быў чальцом «Маладога фронту», але стаў сапраўдным сябрам шэрагу маладафронтаўцаў падчас Майдану. Ціліжанка ўражваў сваёй смеласцю, гасціннасцю, гумарам», — напісалі пра забітага маладафронтаўцы.

**Зміцер Панкавец**

# Украіна склала «чорны спіс» расійскіх артыстаў

Міністэрства культуры Украіны афіцыйна апублікавала «чорны спіс» расійскіх артыстаў і грамадскіх дзеячаў, якія, на думку ўладаў, пагражаюць нацыянальнай бяспецы краіны. Дзяржкіно будзе спыняць дзеянне пракатнага пасведчання фільмаў з удзелам асоб, якія трапілі ў спіс.

З расійскіх акцёраў у спіс трапілі Міхаіл Баярскі і Сяргей Бязрукаў.

Таксама ў спіс увайшлі спевакі Грыгорый Лепс і Іосіф Кабзон, спявачка Валерыя, Мікалай Растаргуеў, акцёры Міхаіл Парэчанкаў і Іван Ахлабысцін, спявак Алег Газманаў. У спісе таксама значацца Ягор Халмагораў і Жэрар Дэпард'е.

Спіс будзе папаўняцца.

Раней Міністэрства культуры Украіны апублікавала «белы спіс» дзеячаў мастацтва, творчасць якіх ведамства рэкамендуе падтрымліваць. Большасць месцаў у спісе з 34-х пазіцый занялі расійскія акцёры і музыканты, а ўзначаліў яго Андрэй Макарэвіч.

**ЛМ**


**Алег Газманаў неўязны ва Украіну і Латвію, у Расіі ж яго ўзнагароджваюць ордэнамі.**

# Расейская спявачка Чычэрына «пашкадавала» Макарэвіча за яго погляды

«Не дай бог нікому такога пад старасць гадоў».



Спявачка, ураджэнка Екацярынбурга Юлія Чычэрына ў інтэрв'ю каналу LifeNews крытычна выказалася пра музыку, лідара рок-гурту «Машына часу» Андрэя Макарэвіча.

Асноўнай тэмай інтэрв'ю стаў бягучы падзел музыкаў па палітычных пераканаof ў украінскім пытанні. Макарэвіча, падвергнутага ганенню за канцэрты ва ўкраінскім Славянску, Чычэрына назвала старым і дурным. «Мне яго шкада. Не дай бог нікому такога пад старасць гадоў. Проста яму нейкі саўковы гонар непрагінання пад свет не дазваляе спыніцца і зразумець: што ж ты робіш, Андруша. Ды і бог з ім. Можа, адумаецца», — сказала спявачка.

Сама Чычэрына дала некалькі канцэртаў у Данецкай і Луганскай «народных рэспубліках». Акрамя таго, спявачка выступала на канцэрце ў Маскве падчас акцыі «Антымайдан».

У інтэрв'ю *LifeNews* Чычэрына пракаментавала абвінавачванні ў здрадзе рок-н-ролу. «Па-мойму, быць здраднікам Радзімы горш, чым здраднікам нейкага там рок-н-ролу».

Нагадаем, для расійскіх культурных дзеячаў падтрымка Украіны можа абярнуцца непрыемнасцямі. Пасля выступу Макарэвіча ў Славянску былі адменены канцэрты музыканта ў шэрагу расійскіх гарадоў.

**АГ**

# Прафесар БДУ: У Беларусі вырасла цэлае пакаленне русафобаў

Доктар філалагічных навук Іван Чарота выступіў з артыкулам «Рэальнае супраць ідэальнага» на старонках расійскага шавіністычнага часопіса «Наш современник».



У публікацыі вядомы славіст перажывае за перспектывы саюза Беларусі і Расіі. І б'е ў званы: у Беларусі вырасла «цэлае пакаленне русафобаў», якое арыентавана ў Еўропу.

«...значная частка насельніцтва Беларусі, асабліва моладзь, інтэграцыю агульнаеўрапейскую лічыць не менш прывабнай, а пры гэтым больш выгаднай, чым інтэграцыя беларуска-расійская... Да таго ж у РБ відавочнымі становяцца вынікі дэрусіфікацыі — найважнейшага сродку дэзынтэграцыі ў адносінах да РФ».

Па словах прафесара, калі раней «антырускія ўстаноўкі» фармуляваліся нешматлікімі дзеячамі БНФ, то цяпер «знайшлі дастаткова шырокі водгук у коле нацыянальнай творчай інтэлігенцыі».

«І цяпер антырускія настроі масавай свядомасцю ўспрымаюцца ўжо не як чужыя «інтарэсам беларускага народа», а наадварот, якія адпавядаюць патрыятычным задачам «працягваць адраджэнне», «умацоўваць самабытнасць», «адстойваць суверэнітэт», сцвярджаць прынцыпы «мультыкультурнасці» і «плюралізму» ў супрацьвагу «расійскаму дэспатызму»...»

Чарота піша пра тое, што месца «народаў-братоў» можа быць занята «партнёрамі» — «цывілізаванымі» народамі высокаразвітых краін, якія ўказваюць нам на выключна заходнія арыенціры.

На сёння «пад уздзеяннем антырускіх канцэпцый ужо вырасла і выхавалася цэлае пакаленне грамадзян «суверэннай і незалежнай» Беларусі, для якіх у адносінах да іх краіны, да іх суграмадзян не маюць асаблівага значэння, а то і проста непрымальнымі з'яўляюцца паняцці «агульнарускія карані», «агульнаруская этна-духоўная прастора», (бела)рускі народ як «галіна рускай супольнасці», «складнік рускай цывілізацыі», «сегмент/элемент рускага свету», не гаворачы ўжо пра заханае ў гістарыяграфіі азначэнне «Заходняя Русь»...»

Чарота супрацьпастаўляе еўраінтэграцыю расійскаму вектару, а каталіцтва — праваслаўю.

«Цяпер ужо русафобія трывала ўкаранілася ў свядомасці практычна ўсіх беларусаў, маладзейшых за 30 гадоў, — рэзюмуе аўтар. — Іх, можна сказаць, пераканалі, што быць беларусам азначае паслядоўна і катэгарычна дэманстраваць сваю асаблівасць і адасобленасць ад рускага народа, рускай гісторыі і культуры, недатычнасць да яе традыцый і духоўных каштоўнасцяў, вылучаць і абсалютызаваць адрозненні ў асноўных этнакультурных прыкметах, асаблівасцях нацыянальнага характару і г.д.».

63-гадовы Іван Чарота — доктар філалагічных навук, прафесар, родам з Палесся. Ён спецыяліст па балканскіх мовах і праваслаўны актывіст. У маі 2015 атрымаў «Медаль Пушкіна» ад Уладзіміра Пуціна за ўмацаванне сяброўства паміж Беларуссю і Расіяй.

**Кастусь Матушыч**

# Давыдзька: Кажуць, эканоміка ў нас у заняпадзе... Добра, згодзімся



У Беларусі ў наяўнасці жаданне і кіраўніка дзяржавы, і ўсіх палітычных сіл увайсці ў дыялог аб Радзіме. Такое меркаванне выказаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька падчас тэлепраграмы «Клуб рэдактараў».

«Апошнім часам многім стала зразумела, што Радзіма ў нас адна. Ну не можа адзін чалавек адказваць за ўсё, што адбываецца ў краіне. І падкажыце, як зрабіць лепш. Таму што шмат крытыкаў, крыкаў: вось гэта дрэнна, эканоміка, маўляў, у заняпадзе... Добра, пагодзімся (і, дарэчы, не толькі ў нас), не будзем апраўдвацца. Што трэба рабіць? У цябе ёсць ідэя? Няма ідэі — крытыкаваць жа проста! І цяпер такі дыялог пажаданы, гэта добры сігнал», — упэўнены Генадзь Давыдзька.

Абмяркоўваючы той факт, што нядаўняе інтэрв'ю Лукашэнкі прадстаўнікам трох недзяржаўных СМІ некаторыя крытыкі назвалі прадказальным, Генадзь Давыдзька заўважыў: «Прадказальнасць — гэта стабільнасць. Што ў гэтым дрэннага? Якога шоу хацелі? Якой вастрыні? Прэзідэнт — не шоўмен і не аніматар, каб забаўляць прадказальнасцю публіку».

Закранаючы адрасаванае кіраўніку дзяржавы пытанне аб вызваленні Статкевіча, Генадзь Давыдзька выказаў наступнае меркаванне: «На гэтую тэму прэзідэнт выказваўся ўжо не раз. Лічу, апазіцыя цудоўна разумее, што Статкевіч ім у турме больш патрэбны, чым на волі».

**БелТА**

# 20-гадовая маці-адзіночка гадуе пяцярых дзяцей

**Пяць цікавых фактаў** пра беларускія сем'і.

Белстат апублікаваў статыстычны зборнік, прысвечаны дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне за 2014 год. «Наша Ніва» знайшла цікавыя факты пра беларускія сем'і.

### Няроўныя шлюбы

Паводле статыстыкі, мужчыны першы раз ідуць у ЗАГС у 27,4 года, жанчыны — у 25,3 года. Аднак бываюць і рэдкія гісторыі. Летась быў зарэгістраваны шлюб паміж нявестай студэнцкага веку (20—24 гады) і пенсіянерам. Была і адваротная сітуацыя: муж-студэнт (20—24 гады) і жонка-пенсіянерка (55—59 гадоў). Што рухала гэтымі парамі: каханне ці разлік?

### Разведзеныя непаўналетнія

Вялікая колькасць шлюбаў рана ці позна заканчваецца разводамі. Праз 12—13 гадоў сямейнага жыцця людзі знаходзяць сабе іншыя пары.

Здараецца, што раннія шлюбы прыцягваюцца зусім мала часу. Летась скасавалі свой першы шлюб 15 непаўналетніх дзяўчат (да 18 гадоў).

Многія адразу ж ідуць у ЗАГС з новым партнёрам. Было зафіксавана 30 зусім маладых нявест (18—19 гадоў), якія ўжо мелі жыццёвы досвед у выглядзе няўдалага сямейнага жыцця. Такіх самых маладых жаніхоў было ўсяго трое.

### Нараджаюць усё пазней

Беларусы не спяшаюцца заводзіць дзяцей. З кожным годам узрост сярэднестатыстычнай маці павялічваецца. Першае дзіця цяпер нараджаюць у 25,7 года (праз некалькі месяцаў пасля першага шлюбу). Для параўнання, у 1990-я нараджалі ў 23 гады.

Змяніўся і ўзрост уступлення ў шлюб. У 1985 годзе ён быў 22 гады для мужчын, 20 — для жанчын. За 30 гадоў ён вырас на 5 гадоў.

### Пяцёра дзяцей у дваццацігадовай маці-адзіночкі

Дзяржава заахвочвае маладых беларусаў ствараць вялікія сем'і, не спыняючыся на адным дзіцяці.

Адна дзяўчына, маладзейшая за 20 гадоў, ужо мае пяцярых дзяцей! Гэтая маладая мінчанка — маці-адзіночка.

Яе выпадак — першы ў Беларусі ад пачатку стагоддзя. У такім узросце такой колькасці дзяцей яшчэ не было.

### Пазашлюбныя дзеці

Агулам у Беларусі кожнае сёмае дзіця (15%) нараджаецца па-за шлюбам. Прычым розніца паміж заходнімі і ўсходнімі абласцямі велізарная. На Брэстчыне і Гродзеншчыне доля такіх дзяцей — каля 11%. Столькі ж у Мінску.

А вось на Гомельшчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне маці-адзіночкі сустракаюцца часцей — 18—19% ад усіх родаў.

**Ягор Марціновіч**



**Першы раз жанчыны ідуць у ЗАГС у 25,3 года.**

## Якімі будуць новыя цягнікі «Штадлер» для міжрэгіянальных ліній

Такія электрычкі **ўжо вырабляюцца** на мінскім заводзе.

Суполка аматараў беларускай чыгункі падзялілася рэндарамі новых цягнікоў *Stafler Flirt 3* — сямівагонных электрычак з вагонамі першага і другога класа.

Такія цягнікі пройдуць выпрабаванні ўвесну 2016 года, летам выйдуць на маршруты Мінск—Гомель і Мінск—Брэст (без прыпынкаў).

Цана да Гомеля ў другім класе складзе каля 67 500 рублёў, у першым — 81 200. Да Брэста ў другім класе давязуць прыблізна за 69 500, дакладная цана на першы клас невядомая.

Кожны вагон будзе мець Wi-Fi-антэны, прадугледжаныя зоны для пасажыраў з дзіцячымі вазкамі, роварамі і вялікім багажом. Пад кожным сядзеннем разеткі. У саставе 4 звычайныя прыбіральні і адна адмысловая для інвалідаў. Адзін з вагонаў другога класа спалучаны з барам.

Вагоны другога класа вельмі падобныя да пяцівагонных «Штадлераў», што сёння ходзяць па рэгіянальных маршрутах.

Вагоны першага класа маюць мяккія скураныя сядзенні, шафу з вешалкамі, столікі.

**Аляксандр Арсёнаў**



**Фотафакт**



**Заўчасны лістапад. Невыносная спёка ў апошнія дні паскорыла працэс высыхання лістоты на дрэвах. Жоўтае лісце ў Мінску ападае, як восенню. Камунальнікі пачалі прыборку сухога лісця ці не на месяц раней за звычайны тэрмін. Паркі жжаўцелі літаральна за тыдзень і выглядаюць ужо зусім як восенню.**

## За загаранне топлес дзяўчыне пагражае штраф 5,4 млн, яе абаронцам — 9 млн

Унутранага расследавання пра правамернасць дзеянняў АМАПа на пляжы не вядзецца.

У суботу на пляжы Мінскага мора адбылася сутычка адпачывальнікаў і АМАПа, у выніку чаго былі затрыманыя дзве жанчыны і мужчына.

«Да нас звярнулася жанчына, што побач з ёй загарае аголеная дзяўчына, — распавядае супрацоўнік Мінскага абласнога УУС. — Супрацоўнікі міліцыі прыйшлі, зрабілі ёй заўвагу. Яна на гэтую заўвагу ніяк не адрэагавала, таму яны прапанавалі ёй прайсці ў машыну. Яна пагадзілася і ніякіх прэтэнзій у яе не было. Людзі, якія адпачывалі побач, пачалі крычаць: «Што вы яе забіраеце!», падскочылі да амапаўцаў, пачалі здымаць на камеру, хапаць за форму... Ну, адштурхнулі гэтую жанчыну і прапанавалі прайсці».

Жанчыне, якая загарала топлес, інкрымінуюць «дробнае хуліганства».

Абодвум «абаронцам» інкрымінуюць «непадпарадкаванне службовай асобе». Ім пагражае адміністрацыйны арышт ці штраф ад 3 600 000 да 9 000 000 рублёў.

**Еўрарадыё**

## Раптоўна памёр вядучы оперны бас Беларусі Алег Гардынец

Яму было ўсяго **53 гады**.

Па словах дактароў, прычынай смерці стала сардэчная недастатковасць.

Выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, лаўрэат нацыянальнага конкурсу вакалістаў імя Л.П. Александроўскай, лаўрэат міжнароднага конкурсу імя Ф. Шаляпіна Алег Гардынец правёў на сцэне больш за трыццаць гадоў.

З 1989 года спявак быў вядомы як саліст Нацыянальнага акадэмічнага вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.



З трупай Беларускай оперы спявак аб'ехаў паўсвету. Нягледзячы на свой талент, які мог быць запатрабаваны ў любой кропцы планеты, спявак падкрэсліваў: «Я люблю сваю зямлю... Усім кажу, што ў Мінску нарадзіўся, тут і памру».

**Naviny.by**

## Спявак Тэа ажаніўся з Вольгай Рыжыкавай

Прадстаўнік Беларусі на «Еўрабачанні-2014» Тэа (Юрый Вашчук) ажаніўся з вядучай Вольгай Рыжыкавай. Вяселле адбылося на мінулых выходных у мінскім гатэлі «Пекін».

Юрый Вашчук нарадзіўся ў 1983 г. У 2000-м быў запрошаны на працу ў Нацыянальны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Фінберга. Разам з Аксанай Вечар вядзе на «Беларусь-3» праграму «Наперад у мінулае», дзе аўтары ездзяць па беларускіх рэгіёнах і запісваюць беларускі фальклор.

Вольга Рыжыкава — вядучая, салістка гурту «Да Вінчы», былая сяброўка лідара гурту Дзяніса Дудзінскага. У інтэрв'ю газеце «Антэнна» маладыя сказалі, што хочуць мець траіх дзяцей.

**АГ**



# Цалавацца не прынята ў большасці культур

Бо гэта некамфортна, неабавязкова ці наогул агідна.




Даследчыкі культурнай антрапалогіі Інстытута імя Кінсі з Універсітэта Індыяны ў Блумінгтане (ЗША) выявілі, што пацалункі лічацца нармальным спосабам узаемадзеяння між мужчынам і жанчынай толькі ў 46% чалавечых культур.

Цалавацца адназначна прынята ва ўсіх культурах Блізкага Усходу, у 73% азіяцкіх і 70% еўрапейскіх культур, ды не любяць цалавацца 81% культур Паўднёвай і 100% — Цэнтральнай Амерыкі.

Навукоўцы прааналізавалі агромністую базу ведаў пра чалавечыя культуры ды апыталі амаль сотню этнографаў і антраполагаў. Агулам сабраныя звесткі пра 168 культур з усяго свету — як старажытных, так і сучасных. Надзейнай інфармацыі няма толькі пра плямёны Сахары і Новай Гвінеі, некаторыя плямёны Амазоніі.

Раней пацалункі меркаваліся «ўсялюдскай» з'явай, што дасталася нам ад рытуалаў продкаў-прыматаў. Нешта падобнае да пацалункаў заўважалі за шымпанзэ.

Сусветны дзень пацалунка адзначаецца 6 ліпеня. Самы доўгі у свеце пацалунак мужчыны з жанчынай працягваўся 58 з паловай гадзін, мужчыны з аўтамабілем — 76 гадзін.

**Аляксандр Арсёнаў**



## Паўночная Карэя ўводзіць уласны час — назло японцам

КНДР абвясціла, што перавядзе гадзіннікі на 30 хвілін назад. Улады Паўночнай Карэі патлумачылі гэта працідзеяннем «зласліваму японскаму мілітарызму».

Карэя жыве па такійскім часе з пачатку XX стагоддзя, калі яна знаходзілася пад японскім кіраваннем.

Гадзіннікі будуць пераведзены 15 жніўня, у 70-ю гадавіну выгнання японскіх войскаў з паўвострава. Увядзенне «пхеньянскага часу» будзе азначаць, што Паўночная і Паўднёвая Карэі будуць жыць у розных часавых паясах, знаходзячыся на адным мерыдыяне.

У свеце некалькі краін і тэрыторый — такія як Індыя, Іран, Венесуэла і канадскі востраў Ньюфаўндленд — жывуць з 30-хвілiннай розніцай у часе адносна суседзяў.

**Бі-Бі-Сі**

## Знакаміты расійскі акцёр Леў Дураў у цяжкім стане

Акцёру стала **дрэнна з сэрцам.**



«Цяпер вельмі складана даваць нейкія прагнозы. Лекары робяць усё магчымае, каб стабілізаваць здароўе акцёра», — паведаміў галоўны ўрач Першай гарадской бальніцы Масквы Аляксей Свет.

Дураў ужо перанёс два інфаркты і аперацыю на сэрцы. У маі 2008 года акцёр перанёс аперацыю па ўстаноўцы кардыёстымулятара, а ў 2009 быў экстрана шпіталізаваны ў аддзяленне кардыялогіі ў Боткінскай бальніцы.

Леў Дураў нарадзіўся 23 снежня 1931 у Маскве.

У кіно Дураў сыграў больш за 200 роляў. Усенародную вядомасць прынеслі работы ў карцінах «Я крочу па Маскве», «Старыя-разбойнікі», «Сямнаццаць імгненняў вясны», «Вялікая перамена».

Здымаўся Дураў і ў беларускіх стужках. Напрыклад, сыграў галоўную ролю ў фільме «Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка» паводле рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

**Сямён Цыбульскі**



## У Гродзенскім заапарку памерла перакормленая наведнікамі зебра

**Бясконцыя пачастункі** прывялі да спынення сэрца.

Ветэрынары Гродзенскага заапарку тры дні біліся за жыццё зебры Бобі, але ўвечары 6 жніўня яе сэрца спынілася. Жывёла памерла ад удушша, выкліканага «чуласцю» наведнікаў, якія ўвесь час падкормлівалі жывёлу.

Для наведнікаў, якія кормяць жывёл, прапануецца нават увесці штрафы. Інфармацыйныя таблічкі не дапамагаюць — людзі кормяць жывёл такой ежай і ў такіх аб'ёмах, што кожны месяц здараецца пара выпадкаў, калі ветэрынарам даводзіцца ратаваць гадаванцаў ад смерці. Удаецца не заўсёды.

Пасля выходных у зебры надзьмуўся жывот, ад чаго прыпыніліся сэрца і лёгкія. У жывёлы ад няправільнага харчавання пачалося браджэнне. Арганізм зебраў нават менш прыстасаваны да абы-якой ежы, чым у коней. Фрукты, хлеб ці цукеркі для іх катэгарычна проціпаказаныя.

**АА**

**На душы**

## Жанчыны на трасе

Піша **Андрэй Дынько.**



Мы едзем, а яны стаяць.

Прадаюць людзі чарніцы каля дарог. Прадаюць і алычу месцамі, абрыкосы, гуркі, але найбольш цяпер — ягады. Чорныя ягады — такія памоцныя, багацце нашых лясоў.

На паварoце да Белага Возера пад Берасцем — па 25 тысяч за літр. На трасе Берасце—Мінск, дзе больш сталічных машын, па 30 тысяч. Ёсць і хітрыя, што просяць па 40—50 тысяч, у разліку на тых, што бяруць першае лепшае, не таргуюцца.

Мы ягады на зіму марозім. Гэта прасцей, чым варыць. Дзеці добра ядуць.

«А колькі вам трэба?» — пытаецца жанчына гадоў сарака.

«А колькі маеце?» — жартую я.

«Сем літраў во набрала», — жанчына толькі прыйшла, ягада свежая, сёння браная.

Трохі сухаватая ад сушы, не вельмі салодкая сёлета, бо першая палова лета была халоднай, мала цукру ў ягадзе. Але ж якая ёсць.

Мы б узялі больш.

«Уладзік, нясі сюды!» — крычыць яна хлопцу, што стаіць з другога боку трасы, дзе цянёк ад бору.

«І мае вазьміце!» — напрошваецца старая кабета поруч. — «І ў мяне ж ягадка адна ў адну».

Бабулька таксама вельмі чысценькая, можна было б узяць і ў яе, не гідка будзе есці, чарніцы ж не мыюць. Не ведаю, хто і купляе іх у алкаголікаў, якіх таксама сярод прадаўцоў нямала. Ёсць жа і не грэблівыя людзі. Ці мо з жалю, на варэнне.

«Я сем набрала, і сын сем набраў», — дзеліцца жанчына.

Хлопец гадоў пятнаццаці падыходзіць са сваім пластыкавым вядзерцам.

Колькі ж святога цярпення трэба мець, каб браць ягады ў гэткую спёку! Нават калі выходзіць у лес на світанні, калі яшчэ абсядаюць цябе злыя камары. Усё адно, пакуль націркаеш вядро гэткай позняй, рэдкай ужо ягады, сонца выйдзе ў зеніт, і тры вады з цябе сплыве.

Колькі трэба часу, каб набраць сем літраў сёлета, калі ягады дробныя? Мусіць, гадзін 5. Плюс каб прадаць — яшчэ пару гадзін. І за васьмі- ці дзесяцігадзінны працоўны дзень заробіш 200 тысяч.

Ніколі не забуду, як і нас бралі ў лес малымі. Сонца пячэ, баішся змей, а збіраеш у маленькі жалезны кубачак. Маленькі — каб дзіця хутчэй набірала, каб не знуджвалася па ягадцы кідаць у тую самую нібыта бязdonную пасудзіну. Хтосьці заблукаў, гукае: «Оў!» І рэха. Плыве пах гарачай смалы... Эх, успаміны...

Спрабаваў і я сваіх дзяцей прывучыць збіраць ягады самым. Пішчыце, плачце, а на возера не павязу, пакуль не назбіраем пяць літраў для мамы і бабы. Скончылася тым, што сыну на адно месца сеў клешч. Во яшчэ паскудства развялося за нядаўнія гады, раней мы іх не ведалі. Натрывожыліся з тым кляшчом і насмяяліся.

Цяжка прывучаць да чагосьці такога, ад чаго нічога ў жыцці дзяцей не залежыць.

А вось жыхарам івацэвіцкіх бароў — гэта выжыванне.

Андрэй Федарэнка ў сваіх творах апісвае, як жа ён ненавідзеў гэтыя ягады, гэтыя грыбы, без якіх і ў Савецкім Саюзе паляшучка не магла адзець дзіця ў школу, выжыць. І цяпер не можа.

Вось ён, чорны эквівалент. Людзі ў вёсцы радыя мучыцца за 200 тысяч за дзень. Дай ім спакойную работу па 5—6 мільёнаў у месяц, будуць шчаслівыя. Каб ім той мільён новых працоўных месцаў, дык пажылі б хоць, як іх еўрапейскія аднагодкі. Такі ты цярплівы і такі працавіты, народ мой.

**Андрэй Дынько**

**Факцік**

Праверыць на радыяцыю чарніцы на Камароўскім рынку каштуе 40 000 (!) рублёў! Пры гэтым літр чарніц тут каштуе 35.

# Міністр сувязі выказаўся супраць бясплатнага роўмінгу

«Неабходна знайсці залатую сярэдзіну».

«Тут у нас пазіцыя неадназначная, — кажа міністр Сяргей Папкоў. — З боку абанентаў, усё павінна быць танней і імкнуцца да нуля, з боку аператараў — трэба захаваць рэнтабельнасць, каб інвеставаць у далейшае развіццё тэхналогій. Таму мы спрабуем вырашыць пытанне, як зрабіць так, каб званок быў выгадны і аператару, і абаненту».

Папкоў заклікае знайсці «залатую сярэдзіну», але адзначае, што ў свеце з яе пошукам усё няпроста. У якасці прыкладу ён прыводзіць Расію, падзеленую на зоны па роўмінгу: калі абанент тэлефануе з Масквы ва Уладзівасток, званок праходзіць праз сеткі некалькіх рэгіянальных аператараў. «Хто аплаціць страты кожнага з аператараў, якія прапусцяць праз сябе трафік?» — пытае міністр.

Скасаваць плату за роўмінг ужо некалькі год прапануе Еўразійская эканамічная камісія. Яна рыхтуе праект усталявання межавых цэн на роўмінг. Згодна з планам, прапанаваным для тэрыторыі ЕАЭС, у 2015 годзе цана на хвіліну выходнага тэлефанавання мае быць не даражэйшай за 1,05 еўра, у 2016-м — не даражэйшай за 0,68 еўра, 2017-м — 0,3 еўра. Затым планка мае абнаўляцца.

**Аляксандр Арсёнаў**



## Адкуль мігранты прыязджаюць у Беларусь?

У параўнанні з 2013 годам плынь мігрантаў павялічылася на 5500 чалавек, перадусім за кошт вайны на тэрыторыі Украіны. З паўднёвай суседкі прыехала на 4000 чалавек больш, чым пазалетась.

З афіцыйнай статыстыкі вынікае, што Беларусь мае адмоўнае міграцыйнае сальда толькі з некалькімі краінамі. Больш чалавек з'ехала, чым прыехала, у Германію (на 188 чалавек), Аўстрыю (29), Чэхію (9), Канаду (4) і Італію (2).

Гэта скажоныя лічбы. У іх не ўлічваюцца эмігранты, якія застаюцца за мяжой, але не паведамляюць пра гэта беларускім уладам.

**Ягор Марціновіч**

| краіна | колькасць | доля |
|---|---|---|
| Расія | 9131 | 36,6% |
| Украіна | 6311 | 25,3% |
| Туркменістан | 1710 | 6,9% |
| Казахстан | 1408 | 5,6% |
| Літва | 1001 | 4,0% |
| Кітай | 465 | 1,9% |
| ЗША | 343 | 1,4% |
| Азербайджан | 343 | 1,4% |
| Малдова | 310 | 1,2% |
| Германія | 282 | 1,1% |
| Грузія | 272 | 1,1% |
| Латвія | 256 | 1,0% |
| Арменія | 242 | 1,0% |
| Польшча | 242 | 1,0% |
| Ізраіль | 220 | 0,9% |
| Узбекістан | 219 | 0,9% |
| Турцыя | 195 | 0,8% |
| Італія | 142 | 0,6% |
| В'етнам | 138 | 0,6% |
| Нігерыя | 92 | 0,4% |
| Кыргызстан | 96 | 0,4% |
| Францыя | 86 | 0,3% |
| Нідэрланды | 86 | 0,3% |
| Таджыкістан | 85 | 0,3% |
| Вялікабрытанія | 83 | 0,3% |
| Сірыя | 80 | 0,3% |
| Іран | 69 | 0,3% |
| Чэхія | 52 | 0,2% |
| Індыя | 51 | 0,2% |
| Канада | 51 | 0,2% |
| Ліван | 49 | 0,2% |
| Афганістан | 45 | 0,2% |
| Швецыя | 39 | 0,2% |
| Эстонія | 39 | 0,2% |
| Балгарыя | 28 | 0,1% |
| Аўстрыя | 15 | 0,1% |
| Іншыя краіны | 665 | 2,7% |

**Фотафакт**



Сяргей Гудзілін

### Чарнагорскія дні беларускага футбола

Барысаўскі БАТЭ зноў забяспечыў сабе выхад у групавы этап аднаго з еўракубкаў. Гэта стала магчыма пасля хатняй перамогі над венгерскім «Відэатонам» — 1:0. Пераможны гол забіў чарнагорскі легіянер Неманья Нікаліч. Цікава, што іншы беларускі клуб — мінскае «Дынама» — у наступны раўнд Лігі Еўропы вывеў таксама гулец нацыянальнай зборнай Чарнагорыі Фатас Бечырай. Ён забіў «Цюрыху» за пяць хвілін да пасляматчавых пенальці — 1:1. Цяпер у Лізе чэмпіёнаў БАТЭ згуляе з сербскім «Партызанам», а мінскае «Дынама» ў Лізе Еўропы — з аўстрыйскім «Рэд Булам».

**ЗП**

## 12-гадовая дзяўчынка здала IQ-тэст лепш, чым Эйнштэйн і Хокінг

Ніколь Бар з графства Эсэкс у Англіі атрымала ў тэсце IQ вынік 162. Гэта на два пункты больш за вынік Альберта Эйнштэйна і Стывена Хокінга, перадае газета *Mirror*.

Дзяўчынка здала тэст разам са сваім бацькам, які спадзяваўся трапіць у таварыства Мэнса — арганізацыю для найразумнейшых людзей свету. Праўда, Ніколь прайшла тэст нашмат лепш за тату і атрымала максімальны бал — 162.

Ніколь, па словах бацькоў, вельмі шмат часу надае вучобе, займаецца ў тэатральным гуртку, а сваё жыццё плануе прысвяціць медыцыне. У школе дзяўчынка заўважна абагнала аднагодкаў у матэматычных ведах і асвоіла комплексныя лікі яшчэ да таго, як стала падлеткам.

У методыцы, па якой быў разлічаны інтэлект Ніколь, вынік у 140 пунктаў прызнаецца як «геніяльнасць». 161 бал лічыцца максімальным для дарослага чалавека. Альберт Эйнштэйн і Стывен Хокінг у гэтым тэсце атрымалі па 160 балаў.



**Tut.by**

## Trubetskoy перастане спяваць «Ляпісаў» у кастрычніку

Тады яны выдадуць новы альбом.




Адзін з двух нашчадкаў «Ляпісаў», гурт *Trubetskoy*, выдасць у кастрычніку дэбютны альбом, расказаў «Спутніку» дырэктар гурту Яўген Калмыкоў.

Новыя песні будуць адрознівацца як ад творчасці «Ляпісаў», так і ад ранейшых песень Trubetskoy.

«Мы робім усе стаўкі на гэты альбом, таму што з восені гурт больш не будзе выконваць песні з рэпертуару «Ляпіса Трубяцкога», — кажа Калмыкоў. — Калі дэбютны альбом «пойдзе» — планы будуць грандыёзныя, калі не — хай садзяцца ў студыю і пішуць новы альбом».

Пэўны час *Trubetskoy* вольна выконваў песні «Ляпісаў» разам са сваімі ўласнымі, але ў сакавіку 2015-га Міхалок ім гэта забараніў, назваўшы «кавэрбэндам». Маўляў, *Trubetskoy* спявае песні, ідэі якіх не падзяляе». *Trubetskoy* адказалі Міхалку беларускамоўным самотнікам «Прывітанне ўсім наогул».

**Аляксандр Арсёнаў**

**Кіно**

## Супершпіён у Беларусі

Місія невыканальная: Племя ізгояў
**Жанр:** баявік, трылер, прыгоды
**Рэжысёр:** Крыстафер МакКуоры
**У ролях:** Том Круз, Джэрамі Рэнер, Сайман Пег, Рэбека Фергюсан, Вінг Рэймз, Шон Харыс, Алек Болдуін, Сайман МакБерні, Том Халандэр
ЗША, 131 хв.
**Адзнака:** 7,5

Атрад «Місія невыканальная» распускаюць, і агент Ітан Хант (Том Круз) вымушаны працаваць у адзіноце, а яго калегі разыходзяцца хто куды. Але менавіта ў гэты час на сусветную сцэну зноў выходзіць «Сіндыкат» — міжнародная сетка высокапрафесійных спецагентаў і забойцаў, якія доўга палявалі на каманду Ханта. Іх называюць «ізгоямі», і яны паставілі перад сабой мэту — усталяванне новага сусветнага парадку. Дзеля гэтага зламыснікі гатовыя правесці серыю тэрактаў. Аб'яднаўшыся з брытанскай агенткай Ільзай Фаўст (Рэбека Фергюсан), Ітан з камандай, якая збіраецца зноў і дзейнічае насуперак усім шпіёнскім арганізацыям, прыступаюць да новай місіі па выкрыцці «Сіндыкату» і яго кіраўніка Саламона Лэйна, усведамляючы, што не могуць давяраць нават сабе.

Амерыканскі акцёр і прадзюсар Том Круз выпусціў новую частку кінасерыяла, удзельнікам якога з'яўляецца на працягу амаль 20-ці гадоў. Шпіёнскі баявік гэтым разам здымалі ў Вялікабрытаніі, Аўстрыі і Марока. Брытанскую агентку сыграла шведка Рэбека Фергюсан, падобная да шведскай актрысы Інгрыд Бергман.

Практычна ўсе трукі і баявыя сцэны ў фільме былі выкананыя самім Томам Крузам — акцёр адмовіўся ад дублёраў. За час здымак ён шэсць разоў атрымліваў траўмы. Самастойна выканаў свае трукі падчас кіравання аўто і калега Круза Сайман Пег.

Дарэчы, падчас аднаго з даўніх заданняў Ханта дзеянне адбываецца на тэрыторыі Беларусі. У адной з эпізадычных роляў тут з'явіўся беларус Дзяніс Харошка, які цяпер жыве ў Лондане. Здымкі гэтай сцэны адбываліся ў брытанскім Лінкальншыры.

Сюжэт фільма адсылае да класічных баевікоў, дзе мінімум спецэфектаў і шмат каскадзёрскіх трукаў. Закручаны сюжэт і баявітыя героі прывабяць аматараў кіно пра шпіёнаў.

**Настасся Уласава**



# Як я спрабаваў атрымаць студэнцкі білет па-беларуску. Марна

Шмат кажуць пра войны інфармацыйныя, гібрыдныя і не паралічыш якія яшчэ.

Але мала хто кажа аб вайне, у якой так ці гэтак удзельнічаем усе мы — вайне бюракратычнай.

Вітаю, сябры. Мяне зваць Мікітам, і сёння я ўжо ў другі раз за жыццё падаў дакументы на паступленне ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Дагэтуль уже давялося пабываць ягоным студэнтам, але ж так склаўся лёс, што прыходзіцца паступаць зноўку… Доўгая гісторыя. Ды і ўвогуле, зараз не аб гэтым.

Кожны з нас хоць раз бачыў студэнцкі білет. Пластыкавая картка, невялічкая такая. Я захоўваў яе ў гаманцы і не надта часта выкарыстоўваў.

Але кожны раз, калі ён трапляў мне на вочы, нейкая журбота находзіла на мяне.

Я не лічу сябе перфекцыяністам. Але я заўсёды калі і не злаваўся, дык неяк няёмка адчуваў сябе з таго, што мае імя, імя па бацьку і прозвішча пазначаны на ім па-руску, у той час як усё астатняе — форма навучання, факультэт і ўсё такое — былі напісаны па-беларуску.

Я чытаў артыкул пра дзяўчыну, якая вырашыла гэтае непаразуменне, завітаўшы ў дэканат. Але сёння, узгадаўшы аб гэтым яшчэ раз, вырашыў разабрацца з праблемай у самым яе корані. І за адным махам праверыць, ці ўвогуле магчыма гэта?

Абітурыенты ведаюць, а студэнты памятаюць, як праходзіць працэдура стварэння ўліковага запісу ў базе ўніверсітэта. Цябе фатаграфуюць, а потым з пашпарта спісваюць твае дадзеныя. На падставе гэтых дадзеных і робіцца потым амаль што ўсе звязаныя з навучальным працэсам дакументы — як заліковая кніжка, так і студэнцкі білет.

Таму, патрапіўшы на трэці паверх геафака БДУ, я вырашыў адразу выказаць свае пажаданні наконт таго, што хацеў бы бачыць у дакументах беларускую версію свайго імя.

Рэгістратарка доўга і здзіўлена паглядала на мяне, некалькі раз перапытала, з якой гэта нагоды я сабе такога надумаў. Ці мо я нацыяналіст нейкі? «Не, — растлумачыў я, — выключна эстэтычнае пытанне».

Прыйшлося паклікаць загадчыцу Таццяну Уладзіміраўну. На ламанай трасянцы тая патлумачыла мне, што гэта не па рэгламенце, ды і ўвогуле ніколі такога не было, каб абітурыент выказваў такога роду пажаданні — а яна тут дзесяць гадоў ужо працуе. У такія моманты і адчуваеш сябе самотным. Мне прапанавалі прайсці ў сакратарыят прыёмнай камісіі, дзе і папытацца, ці можна ўвогуле гэта правярнуць. Што ж, ногі ў мяне не хворыя, часу стае — чаму б не завітаць?

Супрацоўнік (шкада, не памятаю ягонага імя), які мяне сустрэў, скептычна выслухаў маю крыху даўгаватую гісторыю, двойчы перапытаў, навошта мне гэта, але потым прамармытаў: «А якія там у іх праблемы, зрэшты?» і патэлефанаваў Святлане Анатолеўне, да якой апасля мяне і накіраваў. Святлана Анатолеўна правяла мяне назад у «фотастудыю», па дарозе па-беларуску спытаўшы, на які факультэт я пайду, што мяне крыху ўзрадавала. Там і загадала Таццяне Уладзіміраўне — «занесці» мяне ў базу па-беларуску, як я таго і прасіў. Таццяна Уладзіміраўна адвяла мяне да камп'ютара, а сама пабегла яшчэ кудысьці яшчэ чагосьці ў кагосьці пытацца.

Рэгістратар — на гэты раз хлапец — з разуменнем паставіўся да майго пажадання, дадаў беларускую раскладку клавіятуры і пачаў перабіваць дадзеныя. З прозвішчам, якое што так, што так аднолькава пішацца, праблем не ўзнікла. А вось з імем пачалося — праграма катэгарычна адмаўлялася ўспрымаць беларускую літару «і». Паспрабавалі перабіць англійскай раскладкай па парадзе іншага рэгістратара — не, тое ж самае. Курсор заставаўся ля выдзеленай, нібы вінаватай у чымсьці «і» і жоўтым зіхценнем патрабаваў прыбраць яе адсюль куды падалей. Пстрыкалі па экране, білі па клавішах — не хоча!

Прыйшлося здавацца — супраць машыны і праграмы (якая да гэтага года, як потым распавёў мне гэты хлапец, нават «Ё» не ўспрымала, што там аб беларускіх літарах казаць) не папрэш. Параіў ён мне напісаць прапанову ў Міністэрства адукацыі і нават неяк абурана сказаў: «Вось вам і дзве дзяржаўныя мовы…» Сыходзячы, я шчыра падзякаваў яму за ягоныя намаганні, але ён, усміхнуўшыся, адказаў толькі: «Ды няма за што».

Што ж, прыйдзецца ісці па ўжо пратаптаным шляху — звяртацца ў дэканат ужо пасля атрымання неэстэтычнага двухмоўнага білета (і двухмоўнай «залікоўкі») з просьбай замяніць на эстэтычны аднамоўны.

У гэтай бюракратычнай бойцы я пацярпеў паражэнне. Але будзем спадзявацца, што прайграны толькі бой, а не вайна. І калі-небудзь мы дачакаемся таго, што правы беларускай мовы будуць рэалізоўвацца не толькі на паперы.

**Мікіта**

**Прыватныя абвесткі**

Віншуем Лізу Новікаву і Вадзіма Шмыгава з узяццем шлюбу! Няхай у вас усё будзе добра!



**Праблема**

**Лыжка дзёгцю ў цягніку Мінск—Кіеў**

Білеты на цягнік да Кіева надта дарагія. 1,1 мільёна за купэйны ў адзін бок або 650 тыс. плацкартны. Але ж які цудоўны цягнік! Чыста, камфортна, нават гарачая вячэра. Але ўсе плюсы перакрэсліваюцца адным касяком: кандыцыянер у вагонах уключаюць пасля адыходу цягніка. Вось карціна ў Кіеве: людзі сядзяць у вагонах і па гадзіне, бо ж мытны і памежны кантроль тут праходзіць з украінскага боку. А сонца напякло так, што старыя жанчыны, прабачце, раздзяваюцца да станікаў і абмахваюцца чым мага. Вокны задраеныя, кандыцыянер адрублены, з вагонаў памежнікі не пускаюць.

Трэба Беларускай чыгунцы дамовіцца так, каб кандыцыянеры працавалі да адпраўлення цягніка таксама.

**Мікола Іванюк, Мінск**

**Фотафакт**




**Адразу два аўтамабілі з расійскімі нумарамі прыпаркаваліся на месцах для інвалідаў каля «Кароны» ў Баранавічах.**

**Амаль музыка**

## Васіль Грынь. Гэта вы тутыка купіўшы?

Паціскаем рукі і гаворым:
— Іван.
— Васіль.
— Гэта вы тутыка купіўшы?
— Эгэ.
— Ммм... і Мечыкаву хату?
— Ну.
— А быў у нашым калхозі найлепшы трактарыста, жыццё во ні ўдалося...
— Я ў курсі.
— Вы нейкі нашанскі.
— З Маладэчнага.
— А дык чую!
— Слухайця, ці маіця вы пачку папіросэ?
— Зара у свайго хлапца папрашу, бо я нікурашчы, а ён смаля.
— О! О! Папытайціся, а то б..ь за гэтым трактарам і пойлам німа калі ў мага́зін адскочыць... бляха...
— Зара... Ваадзіім! Дай ты дзядзьку пачак папіросэ!
— Наце Вам!
— Ооо! Ну дык спасіба на разе! Вот вам грошы.
— Іван! У нас тутыка ні магазін! Будзіця ехаць з пойлам каровам, дык аддайця чалавеку!
— А, бляха, вы талковыя хлопцы, віджу. Я вамыка зара яблыкаў даўнейшых прынясу. Гэта са старых футароў, я там ваду каровам чарэпаю.
Прэз трактара торбу салодкіх смачных яблык...



«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**





Усевалад Сцебурака

## Ці могуць сабакі любіць?

Ці могуць сабакі любіць?
Сказаць мне напэўна цяжка.
Што скажа дваровы бадзяжка,
якому пад плотам жыць?
Ён скажа:
— Канешне, магу!
Я буду карысным дужа,
сагрэю ў любую сцюжу,
ад злодзеяў зберагу,
ніколі ад вас не збягу!..
Укладзе галаву на нагу,
прымоўкне і вочы прымружыць —
і ты зразумееш, дружа,
чаго я сказаць не змагу…
Ды лепей зусім не пытаць,
а сесці з кудлатым побач,
на месяц зірнуць апоўнач
і сябрам сабачым стаць!

# Начная бойка ў мінскім бары ледзь не скончылася стралянінай

**Канфлікт у цэнтры сталіцы ўзнік на пустым месцы.**

Бойка мінчукоў з гасцямі сталіцы адбылася ўначы 8 жніўня ў бары «Туманы» на вуліцы Зыбіцкай у Верхнім горадзе. Каля трэцяй гадзіны ночы ў бары працаваў фатограф — здымаў наведнікаў. Група гасцей Мінска папрасіла сфатаграфаваць і іх. Фатограф адмовіўся, за што адразу атрымаў удар у сківіцу. За яго ўступіліся наведнікі з суседніх столікаў. Пачаўся мардабой.

У бойцы ўдзельнічала каля дзесяці чалавек, як сцвярджае відавочца Андрэй. Ахоўнікі беспаспяхова спрабавалі іх разняць. Калі сілы ў гасцей пачалі здаваць, адзін з іх кінуўся да машыны і дастаў пісталет. Ён пачаў ім размахваць. Страляць не наважыўся, але стукнуў пісталетам па галаве хлопца, які заступіўся за фатографа.

Прысутныя выклікалі міліцыю. Яшчэ да яе прыезду госці спрабавалі ўцячы. Але на выездзе ўтварыўся затор, што і затрымала іх да прыбыцця нарада.

«Пакуль толку мала будзе: ласную памяць мне адбіла ўдарам. Адміністрацыя і ахоўнікі мне ўсё расказалі. Асобныя моманты ўзгадваюцца — успомніў маладога чалавека, які за мяне заступіўся», — расказвае фатограф Дзмітрый, праз якога ўсё і пачалося. Ён знаходзіцца дома, кажа, што ў яго — «страсенне мазгоў, сіняк на перадплечны — паспеў падставіць пад удар. І яшчэ адчувальны боль у сківіцы».

Гэта была звычайная вечарынка. Граў ды-джэй. Дзмітрый — пастаянны фатограф у бары. «У «Туманах», напэўна, упершыню такое са мной. Але і з такім размахам упершыню за маю шасцігадовую кар'еру клубнага фатографа».

Гасцямі сталіцы аказаліся небеларусы. Дзмітрый спасылаецца на ахоўнікаў і кажа, што гэта выпадковыя наведнікі. «Магчыма нават, яны не былі наведнікамі «Тумаоў». Ды-джэй грае на летняй тэрасе: там уся вуліца танчыць». Маглі проста падысці.



З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

Каб стрымаць уцекачоў, давялося начапіць кайданкі.

### «Нічога такога не было»

Дырэктар бара «Туманы» запэўнівае, што гісторыя моцна перабольшана. «Рэзананс пайшоў, але насамрэч нічога не было. Быў міжсабойчык, але не было ні зброі, ні нажоў. Сёння мне ўвесь дзень тэлефануюць: ледзьве людзей там не зарэзалі, не пахавалі. Мне нічога не паламалі. З персаналам у мяне праблем не было. У міліцыі нават справу не распачыналі. Там была дробная заварушка, у якой п'яны чалавек з'ехаў». Хто стаўся завадатарам бойкі? «Такую інфармацыю я не хачу расказваць. Гэта мой бізнэс. Мне ўжо з-за аднаго артыкула хапіла... Бегаю ўвесь дзень».

Ва ўпраўленне Следчага камітэта па Мінску матэрыялы па бойцы не паступалі. Праверку яшчэ праводзіць Цэнтральны РУУС Мінска, паведамілі ў прэс-службе сталічнай міліцыі. Толькі пасля праверкі будзе вырашана, ці распачнуць крымінальную справу.

**Сяргей Макарэвіч**

# Пасадзілі экс-пілота Лукашэнкі

**Справа тычыцца прыватызацыі дзяржпрадпрыемства.**

Былы генеральны дырэктар ААТ «Авіякампанія Трансавіяэкспарт» Вадзім Мельнік асуджаны да 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Праўда, год яму скінулі па амністыі.

Мельнік быў затрыманы супрацоўнікамі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС у красавіку 2015. Яго падазравалі ў замаху на махлярства ў асабліва буйным памеры і падбухторванні да дачы хабару.

Справа закруцілася вакол прыватызацыі «Трансавіяэкспарта». Прадаць кампанію хацелі, яшчэ як Мельнік быў дырэктарам дэпартамента па авіяцыі пры міністэрстве. Жаданне выказаў расійскі інвестар. Праўда, угода тады не адбылася. А вось знаёмства захавалася. І калі ўжо Мельнік узначаліў кампанію, вярнуліся да гэтага пытання. Бізнэсовец абяцаў Мельніку захаванне пасады з добрым заробкам, калі продаж адбудзецца. І спытаўся, колькі трэба перадаць грошай і каму, каб паскорыць працэс. Мельнік назваў суму ў $500 тысяч. Праўда, нікому з чыноўнікаў грошы перадаваць не збіраўся, а хацеў усё пакінуць сабе.



NP.BY

У выніку Мельніка затрымалі, калі расійскі бізнэсовец прывёз яму $30 тысяч памечанымі купюрамі.

Падчас следства быў накладзены арышт на яго маёмасць на 4,15 мілярда рублёў, у тым ліку катэдж у Мінску, аўтамабіль-уседарожнік, на гатоўку ў валюце.

Вадзім Мельнік раней працаваў дырэктарам дэпартамента па авіяцыі Міністэрства транспарту і камунікацый. Сыход з гэтай пасады нібыта быў па ўзаемным жаданні. Адбылося гэта ў канцы 2012. А вясной 2013 ён узначаліў «Трансавіяэкспарт». А яшчэ ён быў пілотам борта №1.

«Трансавіяэкспарт» створаны ў 1992. Займаецца грузавымі перавозкамі. Таксама аказвае паслугі па рамонце і тэхнічным абслугоўванні авіятэхнікі. Парк кампаніі складаюць самалёты Іл-76. Дзяржаве належыць 99,88% акцый. Створаны філіял у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

**Кастусь Матушыч**

# Кіроўца пад кайфам разагнаўся да 200 км/г

**Абышлося без ахвяр.**

Ноччу 10 жніўня даішнікі падалі сігнал аб спыненні кіроўцу аўтамашыны «Хонда Акорд», які рухаўся па знешнім коле МКАД з боку Даўгінаўскага тракта ў кірунку праспекта Пераможцаў. Той не адрэагаваў на патрабаванне і працягнуў рух. Затым ён выехаў на сустрэчную паласу праспекта Пераможцаў, паехаў па вуліцы Ратамскай і ў раёне ГЦ «Ждановічы» зноў выскачыў на МКАД.

Аўтамабіль рухаўся з хуткасцю каля 200 км/г, да пагоні падключыўся яшчэ адзін экіпаж. Нарэшце, у раёне вуліцы Сасновы Бор кіроўца «Хонды» не даў рады кіраванню, выехаў за межы праезнай часткі і спыніўся. Кіроўца і пасажыры паспрабавалі збегчы, але былі затрыманыя супрацоўнікамі ДАІ.

У 20-гадовага кіроўцы падчас праверкі дакументаў знайшлі позву ў суд па артыкуле за незаконны абарот наркотыкаў. Вырашылі агледзець машыну, і ўбачылі поліэтыленавы пакет з белым парашком, а таксама зялёнае рэчыва расліннага паходжання. Матэрыялы адпраўлены на экспертызу.

**Паводле БелТА**

## Сцісла

### Следчых адправілі ў калонію

Былых супрацоўнікаў Следчага камітэта Алега Мельнікава і Сяргея Кастыку прызналі вінаватымі ў атрыманні хабару («Наша Ніва» расказвала пра гэты суд у №27 за 22 ліпеня 2015). Кожны атрымаў па 7,5 года калоніі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады ў праваахоўных органах на 5 гадоў. Яны пазбаўлены звання падпалкоўніка юстыцыі. Былым афіцэрам па амністыі «скінулі» па годзе калоніі.

### Пратаранілі лася — два трупы

У выніку наезду легкавога «Вольва» на лася загінула два чалавекі, яшчэ двое атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. Здарэнне адбылося каля в. Гацук Слуцкага раёна. Загінулі мужчына, 1969 года нараджэння, і дзяўчына, 1999 г.н.

### «Нагрэлася» на шашыстах

Завершана расследаванне справы дырэктаркі Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках. 43-гадовую мінчанку вінавацяць у прысабечванні бюджэтных грошай, якія вылучаліся ў якасці ўстанове для спартыўных мерапрыемстваў, вучэбна-трэніровачных збораў, на камандзіровачныя выдаткі. Акрамя таго, дырэктарка загадвала работнікам бухгалтэрыі без падстаў налічваць ёй прэміі і матэрыяльную дапамогу, кампенсацыю за нявыкарыстаны адпачынак. Следчыя сабралі доказы па 12 злачынных эпізодах. Шкода ад яе дзеянняў ацэньваецца ў суму больш за 222 мільёны рублёў.

### Вулічныя музыкі прадавалі наркату

У Брэсце затрымалі вулічных музыкаў, якія падчас сваіх выступа прадавалі наркату. Яны рэгулярна выступалі на пешаходнай вуліцы Савецкай — упадабаным месцы адпачынку берасцейскай моладзі. Але высветлілася, што скрыпач і гітарыст не толькі самі ўжывалі наркотыкі, але і збывалі іх. Схема працавала так. Грошы замоўцы кідалі ў капялюш пад выглядам платы за мастацтва. І на месцы атрымлівалі тавар.

### Браты-ўцекачы

Братоў Паповых, грамадзян Расіі, летась судзілі ў Мінску за махлярства. Малодшаму, Яўгену, 31 год, старэйшаму, Васілю, 35. Калі справа ішла да канца, яны не сталі чакаць прысуду, а паспрабавалі ўцячы. 20 лістапада яны напалі на канваіра. Васіль схапіў кавалак трубы і ўдарыў міліцыянта. Яўген парываўся дапамагчы брату. Давялося зрабіць папераджальныя стрэлы, каб уціхамірыць Паповых. Адбыўся новы суд. У выніку старэйшы правядзе за кратамі 20 гадоў, малодшы — 12. У іх канфіскуюць маёмасць.

### Куніца адключыла электрычнасць у цэлым раёне

Прычынай адключэння мінскай падстанцыі «Зялёны Луг» 8 жніўня стала куніца. Звярок улез у падстанцыю і згарэў, спатрэбілася чыстка ізаляцыі трансфарматара ад яго парэшткаў, паколькі любое забруджанне ізаляцыі можа прывесці да паўторнага адключэння абсталявання.

**КМ**

Пра побыт і норавы сучаснай беларускай турмы піша зняволены анархіст **Ігар Аліневіч**.

# Механіка рабства

Выйшаўшы з чарговага штрафнога ізалятара, даведаўся, што ў друку ўзнялося пытанне аб становішчы ў турмах і зонах. З усмешкай прачытаў артыкул Алены Красоўскай-Каспяровіч [кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформа», тут і далей заўв. рэд.] пра тое, як «за 5 гадоў сітуацыя змянілася ў лепшы бок».

Смешна чытаць усё гэта, калі на маіх вачах зоны ператварыліся ў лагеры познасталінскага тыпу. На маёй памяці з паляпшэнняў было толькі павелічэнне ліміту атаваркі [магчымасць набываць тавары ў краме пры калоніі] для злосных парушальнікаў з адной базавай велічыні да двух — 360 000 рублёў. Затое спіс пагаршэнняў... І садавінныя пасылкі забаранілі, і сродкі гігіены сталі ўключаць у вагу перадачы, і ўтрыманне заробку павялічылі з 3/4 да 90%, і асабістыя тазікі/вёдры пазабаранялі, і час спаткання паменшылі, і юрыдычную літаратуру забаранілі — усяго не пералічыш.

Прынцыповае адрозненне постсавецкіх зон ад ГУЛАГа: няма голаду, баракі больш-менш ацяпляюцца, няма катаржнай працы, забойства зэка больш не штодзённасць. У сучасных зонах амаль знікла масавае збіццё зэкаў.

Яшчэ ў 2001 годзе на жодзінскім цэнтрале [СІЗА-турма №8 у Жодзіне] арыштаваных сустракалі турэмшчыкі з кіянкамі і віталі: «Сардэчна запрашаем у «Чорны Бусел». Збівалі для прафілактыкі.

Віцебскую турму залівалі крывёю яшчэ ў 2006—2010 гадах. Мае прыгоды ў Амерыканцы [СІЗА КДБ] — усяго толькі дзіцячы шпацыр у параўнанні з тымі турмамі. Хоць у 2012 годзе групу зэкаў збівалі і ў зоне, быў выпадак. А кропкавае збіццё без усялякай неабходнасці працягваецца і цяпер.

Кулак у зонах таксама не гуляе, але гэта дзякуючы абароне нефармальнага арыштанцкага кодэксу. Прымяніць неабгрунтаваны гвалт да іншага зэка — бязмежжа, адказваюць адпаведна. Зрэшты, турэмшчыкі актыўна выцясняюць арыштанцкія традыцыі; калі гэта адбудзецца, надыдзе сапраўднае бязмежжа.



За апошнія гады падцягваюць матэрыяльна-бытавое забеспячэнне. Робіцца гэта за кошт саміх зэкаў, роля турэмшчыкаў зводзіцца да выбівання неабходных сродкаў. Аднак матэрыяльшчыну паляпшаюць толькі такую, якой можна пусціць пыл у вочы праверкам. Вось прычына еўрарамонтаў і плазмаў у ленкомнатах [пакой для вольнага часу ў калоніях].

Паралельна з вонкавымі прыгажосцямі забаранілі разеткі ў жылых секцыях, у кабінках туалетаў няма дзвярэй. Афіцыйна з посуду дазволены адзін кубак (кераміка забароненая). У чым гатаваць кашы і салаты? Для гэтай мэты служаць пластыкавыя кантэйнеры, якія цяпер забараняюць у перадачах. Канфіскуюць электрачайнікі.

Нельга насіць ваўняны швэдар. На зіму і лета адна мадэль чаравікаў. Нельга шорты і спортшапачку. Адсутнічае міжсезонка: дажджавік, куртка, паліто. Альбо роба, альбо ватоўка.

Але галоўная рыса, атрыманая ў спадчыну ад ГУЛАГа, — атмасфера ўсёдазволенасці з боку турэмшчыкаў. Арыштанта не прызнаюць за паўнавартаснага чалавека, у дачыненні да яго дазволена ўсё.

Механіка рабства пачынаецца з маналіту пад назвай «рэжым». Кожны дзень зэк абавязаны выходзіць у сталовую, незалежна ад уласнага жадання і надвор'я. Потым ідуць такія ж абавязковыя паходы ў клуб на нікому не патрэбныя выхаваўчыя мерапрыемствы. Выхад у санчастку, краму, лазню таксама адбываецца строем і строга па камандзе.

За масавым рэжымным дэбілізмам ідзе кропкавы, персанальны. У спякоту чапляюцца да незашпіленага верхняга гузіка, у холад — да паднятага каўняра целагрэйкі або робы. Або запускаюць родных на спатканне не раніцай, а пасля абеду, і не важна, што людзі прыехалі ў 8 гадзін. Або адпраўляюць пасылку назад, «забыўшыся» зрабіць пазнаку ў асабістай картцы.

Я нават шалік не магу завязаць так, як хачу, опер асабіста адчытваў мяне за гэта!

Каб патэлефанаваць дадому, мне трэба напісаць некалькі заяў на кожны званок, здаць у пэўныя дні, каб іх падпісалі праз 2—3 тыдні. Кожны месяц зона выдае некалькі тысяч лістоў для абсалютна бессэнсоўнага рытуалу падпісвання.

Вы спытаеце: «Як вы гэта ўсё церпіце?» Зрэдку абурэнні здараюцца, усё-ткі паразуменне паміж турэмшчыкамі і зэкамі становіцца ўсё менш.

Нядаўна быў кіпіш і ў нас, на ўзорна-паказальнай «тройцы» [ВК-3]. 22—23 чэрвеня зона адмовілася ад ежы. Наглядчыкі, большасць з якіх раней працавала на малалетцы [калонія для непаўналетніх зняволеных], усё ніяк не зразумеюць, што маюць справу з дарослымі людзьмі. Іх актывісты чалавека на кружку адсадзілі [перавялі ў разрад «апушчаных», ніжэйшага саслоўя ў турэмнай каставай сістэме], народ гэтага не зразумеў, абурыўся.

Але такія акцыі — вялікая рэдкасць. Бо ў руках адміністрацыі датэрміновае вызваленне любога зэка. Ды і ў цэлым эфектыўна працуе прынцып «падзяляй і ўладар».

Ад патрабаванняў рэжыму ў значна меншай ступені пакутуюць актывісты. Раней іх называлі «лагернымі прыдуркамі», а цяпер папросту «казламі». Актывісты — ніжняе звяно зонаўскай адміністрацыі з ліку саміх зэкаў. Афіцыйна іх павінны выбіраць асуджаныя ў атрадах, але на справе іх прызначаюць зверху.

Маючы доступ да пэўных наглядчыкаў, яны могуць вырашаць розныя пытанні. Дадатковыя суткі на спатканні, дадатковая пасылка, спальнае месца, пасада актывіста і галоўнае — датэрміновае вызваленне; нават нацкаваць турэмшчыкаў на непажаданага зэка або, наадварот, адмазаць ад спагнання — усё магчыма.

Вырашэнне пытанняў, зразумела, адбываецца на платнай аснове. Але не столькі асабіста на кішэню (хоць ёсць і такое), а праз афіцыйнае прыкрыццё: фонд калоніі. Будматэрыялы, фарба, шпалеры, вокны, грошы на афіцыйны рахунак, падпіска на газету «Працоўны шлях». Так ўпадабаныя Красоўскай еўрарамонты робяцца за кошт сродкаў сваякоў асуджаных, выручаных адладжанай сістэмай вымагальніцтва.

Акрамя адкрыта прывілеяванага саслоўя сярод зэкаў ёсць і схаванае. Сексоты, стукачы, даносчыкі. Вам уяўляецца пара-тройка нягоднікаў на атрад. На жаль, методыка турэмшчыкаў у тым, каб «ссучыць» кожнага. Прапанову супрацоўнічаць закідваюць пры ўсякім зручным выпадку.

Адзін атраднік [начальнік атрада] выхваляўся, што ў яго атрадзе з 120 чалавек стукалі 65. Хочацца верыць, што гэта хлусня. Аднак у арыштанцкім асяроддзі ўжо даўно ніхто нічога адкрыта не гаворыць.

Пераважная большасць зэкаў — утрыманцы, жывуць на дасланыя на асабісты рахунак грошы. Таму што сумленнай працай у зоне зарабіць немагчыма. Большасць (прыблізна 80%) працаўладкаваная толькі фармальна: працы няма. Іх выводзяць на прамзону для галачкі (што само па сабе разбэшчвае чалавека). Тыя ж, хто працуе, дзеляцца на дзве няроўныя групы.

Некалькі дзясяткаў шчаслівчыкаў сапраўды могуць атрымліваць мільёны, бо занятыя на высокапрыбытковых вытворчасцях (тэнты, мэбля). Другая група — некалькі соцень зэкаў, на працы якіх трымаецца ўся прамзона. Іх «зарплаты» нельга назваць грашыма.

Напрыклад, чалавек, які працуе на многапіле (станок для абразной дошкі) поўны працоўны дзень, атрымлівае на рахунак ... 40 тысяч! Іншы мой знаёмы ўкалваў на пілараме па паўтары стаўкі, па 12 гадзін, у выходныя і па начах, і атрымліваў 90—120 тысяч.

Фактычна, у краіне дзейнічае сістэма рабскай працы, якая закранае дзясяткі тысяч чалавек.

Людзі выжываюць як могуць, падпольна займаюцца ўсялякімі рамёствамі. Але гэта забаронена, калі няма даху з боку турэмшчыкаў. Турэмшчык забірае сабе ўсё, а наўзамен — паслабленні па рэжыме, рашэнне любых пытанняў, у тым ліку датэрміновае вызваленне. Чым не прыгонная гаспадарка?

У выніку чалавек працы не можа ні забяспечыць сябе, ні дапамагчы сям'і, ні кампенсаваць выдаткі на ўтрыманне, ні пагасіць пазоў, ні назапасіць грошай да вызвалення. Любы лагер можа выйсці на самазабеспячэнне і прыбытак хоць заўтра, абы турэмшчыкі не перашкаджалі.

Першараднае значэнне адміністрацыя надае пагашэнню пазоваў па крымінальнай справе. Усюды развешаны стэнды з графікамі, колькі кожны атрад пагасіў. Да тых, хто не пагасіў пазоў, не прымяняецца амністыя, яны пралятаюць міма датэрміновага вызвалення і моцна абмежаваныя па краме: 360 000 (2 базавыя велічыні) у месяц. Калі пры гэтым зэк пазбаўлены пасылак, то гэта азначае напаўгаладное існаванне. Як рэпрэсуюць непажаданых? Памятаю, як у першы раз наглядчык сказаў мне: «Не ведаю, за што на цябе ў штабе засінілі [чым ты не дагадзіў], але там вырашылі ўшатаць цябе на кічу [справадзіць у штрафны ізалятар]. Ты стаіш на ўборцы ўмывальніка, але ты ж не будзеш дзверы на дальняк [туалет] праціраць? Так што нічога асабістага. Круці тарпеды». Пратрэш хоць бы ручку туалета — едзеш пеўнем у гарэм [у камеру для «апушчаных»], адмовішся — у ШІЗА.

Варыянтаў паставіць зэка ў бязвыхадное становішча процьма.

Яшчэ распаўсюджаны метад рэпрэсій — ператрус асабістых рэчаў і праверка адпаведнасці іх вопісу. Ні ў аднаго зэка яна не супадае, проста немагчыма ўсё ўлічваць дакладна.

Акрамя ШІЗА, пазбаўляюць спатканняў (2 працяглыя, 3 кароткія на год) і пасылак (3 на год), абмяжоўваюць атаваркі як злосніку, 360 тысяч. Вось так у XXI стагоддзі чалавека караюць ежай і забаронай бачыцца з бацькамі і блізкімі.

Пасля ШІЗА зэка ўжо могуць змясціць у ПКТ [памяшканне камернага тыпу, від пакарання злосных парушальнікаў], лагерную турму, на паўгода. Там чалавека пазбаўляюць не толькі спатканняў і пасылак, але і званкоў. А ўжо пасля ПКТ наступны прыпынак — «крытка», турма для парушальнікаў. Нямала людзей паехала туды, каб толькі не напітвацца лагерным скоцтвам, не стаць ідыётамі. Аб падобным я чытаў ва ўспамінах вязняў ГУЛАГа, калі людзі ў лагерах марылі вырнуцца ў манаскія келлі палітізалятараў.

Але і гэта не мяжа. У Крымінальным кодэксе прысутнічае артыкул 411 «Злоснае непадпарадкаванне». Фармальны склад — парушэнне на працягу года пасля ПКТ. Да двух гадоў плюс да тэрміну. Можна заехаць у зону з годам, а адседзець усе 25, па законе!

Ніякага грамадскага кантролю няма і ў паміне. Калі прыязджаюць важныя камісіі, зэкаў заганяюць на ленпакой, а ва ўсіх ключавых кропках зоны расстаўляюцца супрацоўнікі.

Хоць да чаго скардзіцца? У сакавіку 2014 прыязджаў начальнік Дэпартамента выканання пакаранняў. Ён падышоў да двух вязняў у сталоўцы, пацікавіўся якасцю баланды. Супец у той дзень быў хвацкім дзярмом, суцэльная вада, пра што мужыкі проста і сказалі. Праз дзве гадзіны абодва ўжо былі ў ШІЗА. Знайшліся парушэнні-с.

Толку ад пісьмовых скаргаў амаль ніякага. Ні разу я не чуў, каб пракуратура або суд адмянілі несправядлівае рашэнне адміністрацыі.

Але самы свежы «прававы апгрэйд» — забарона на валоданне кодэксамі і іншымі юрыдычнымі матэрыяламі. У лютым 2015, на «тройцы», у мяне самога канфіскавалі дасланыя абнаўленні ў УВК і КК, нават акт склалі. Карыстацца юрыдычнай літаратурай можна, толькі ўзяўшы яе ў начальніка атрада. Такія вязні бяруцца на заметку.

Жывучы ў рэжыме ўсебаковай рэгламентацыі, арыштант амаль губляе прастору для ініцыятывы, самарэалізацыі. Прыгон і рабская праца, узаконенае вымагальніцтва, вытанчаны здзек з асобы — характэрная рэчаіснасць лагера.

Хто ж выходзіць з лагераў? Сутнасць «выпраўлення» — ператварыць чалавека ў бязвольны аўтамат, паўзуна перад уладай. Турма робіць усё, каб максімальна выключыць чалавека з грамадства, каб яму не было куды вяртацца. Адны вызваляюцца азлобленымі, без граша ў кішэні, без веры ў справядлівасць і чалавечнасць. Іншыя ж перасягнулі ўсе мажлівыя межы маральнага: грамадства для іх як выпрабавальны палігон сваёй прагі ўлады і ссучанай маралі. Трэція наогул выходзяць бязвольнай гароднінай, у іх забітая воля.

Афіцыйны рэцыдыў — 54%! Але не варта памыляцца наконт астатніх. Прайшоўшы «турэмныя ўніверсітэты», многія ўжо не трапляцца, стаўшы прафесійнымі злачынцамі. Яшчэ частка зусім пакідае краіну, разумеючы, што іх замятуць пры першым зручным выпадку. Лагерная псіхалогія атручвае ўсё грамадства, бо лік ідзе на сотні тысяч тых, што прайшлі праз турэмную мясарубку.

Лагеры трохі падраслі матэрыяльна, бо час ідзе. Але ментальна — што галоўнае! — гэта ўсё той жа ГУЛАГ.

**Ігар Аліневіч, зняволены, анархіст**

**Паводле abc-belarus.org, друкуецца ў скароце**



**Ігар Аліневіч**

Нар. 1983. Асуджаны ў 2011 на 8 гадоў зняволення па «справе анархістаў»: маладыя людзі былі абвінавачаныя ва ўчыненні шэрагу нападаў на будынкі і падпалаў, у прыватнасці ў правядзенні несанкцыянаванай антываеннай акцыі каля будынка Мінабароны ў 2009 годзе, закідванні бутэлькамі з запальнай сумессю тэрыторыі пасольства Расіі ў Мінску і ізалятара на Акрэсціна ў 2010. Адбывае пакаранне ў калоніі «Віцьба-3». Праваабаронцы прызналі Аліневіча палітзняволеным. У снежні 2013 Аліневіч стаў уладальнікам першай прэміі імя Францішка Аляхновіча за кнігу «Еду ў Магадан».

6 жніўня ў мастака юбілей.

# Да 50-годдзя Алеся Пушкіна дачка падарыла яму ўнука

Алесь Пушкін сустрэў 50-годдзе ў роднай вёсцы Бобр Крупскага раёна. Каля дома былі накрытыя сталы, і цэлы дзень ён прымаў гасцей і віншаванні. Як на карцінах Пірасмані — застолле, тосты.

Да такой круглай даты Пушкін падышоў з вялікім багажом — чацвёра дзяцей (тры дачкі і сын), адзін унук. Унука падарыла дачка Ганна. Хлопчык нарадзіўся 1 жніўня.

Сваім вялікім набыткам ён называе і свае карціны, выставы... Кажа, што калі нехта не ведае яго палотнаў, то пра перформанс з тачкай гною каля рэзідэнцыі Лукашэнкі чулі. Гэта было ў 1999-м. Мастак адзначае, што пасля таго перформансу маці яго пабіла палкай: маўляў, сын не ўсведамляў, што з ім маглі за тое зрабіць. А яна перажывала.

Хоць раней, у 1989 годзе, калі Пушкін правёў палітычны перформанс да 71-й гадавіны абвяшчэння БНР і яго асудзілі на ўмоўны тэрмін, маці стрымана рэагавала. А вось бацька, які адседзеў у лагеры, моцна быў уражаны: за такі ўчынак сына не толькі не пасадзілі ў турму, але і пакінулі вучыцца ў Акадэміі мастацтваў.

Найбольшым сваім мастацкім творам Пушкін лічыць роспіс царквы ў Бабры. Хаця фрэска з Лукашэнкам у пекле прынесла Пушкіну шмат непрыемнасцяў. Царква ў 2011 згарэла. Цяпер, праўда, храм аднавілі. І мастак будзе звяртацца да епіскапа, каб яму зноў дазволілі яго распісаць.

Сам Алесь Пушкін называе вялікай падзеяй для роднай вёскі сваё нараджэнне. За 500-гадовую гісторыю Бабра гэта адзіны выпадак, каб вясковы хлопчык стаў мастаком, вярнуўся ў Бобр і распісаў царкву.

Падчас вучобы ў Акадэміі мастацтваў яго забралі ў войска. Кажа, што, калі былі ў Ташкенце ўжо, паведамілі ім пра вылет у Афганістан на вайну. Ён быў у верталётным палку — абслугоўваў верталёты. Непасрэдна ў баявых дзеяннях не ўдзельнічаў. Таму і страшна там не было. Прынамсі, пра смерць не задумваўся. Канечне, былі абстрэлы. Уразіла смерць салдата: адбыўся самастрэл, і хлопец паміраў на вачах у Пушкіна. Мастак запомніў яго вочы, поўныя жаху.




## Пушкін: Калі Беларусь застанецца суверэннай, я завязу да рэзідэнцыі Лукашэнкі тачку ружаў

«Гляджу [на прэзідэнцкую кампанію] і вельмі хачу, каб, па-першае, усё прайшло вельмі спакойна і, па-другое, каб [Бог даў] «рвущемуся к власти навластвоваться всласть», — сказаў мастак Алесь Пушкін у інтэрв'ю радыё «Свабода». — Я вось што думаю: пройдзе яшчэ пяць год, і можна будзе да 25-гадовага юбілею кіравання Лукашэнкі завезці да ягонай рэзідэнцыі тачку ружаў. Хацелася б зрабіць гэты перформанс. У параўнанні з іншымі дзеячамі, напрыклад, Пуціным ці Януковічам, ён заслугоўвае кветак. Калі да 2020 года краіна застанецца суверэннай, калі зменшыцца ўзровень смяротнасці, павысіцца дэмаграфічны прырост, калі павысяцца эканамічныя паказнікі. Галоўнае, каб не здарылася наадварот — каб тут не было «зялёных чалавечкаў», расейскага рубля, расейскай вайсковай тэхнікі, тады будзе жах...Трэба, каб запрацавалі механізмы, у выніку якіх суверэнітэт Беларусі быў бы несумнеўны, як у Польшчы ці Швецыі. Але пакуль я вельмі трывожуся за незалежнасць Беларусі», — падсумоўвае Пушкін.



Хата Пушкіных у Бабры (знізу). У гонар юбілею мастак вывесіў на ёй банер (зверху).

Пушкін прыгадвае публікацыю ў «Комсомольской правде», у якой аўтарка разважала над двума варыянтамі для мастака ў будучым. Згодна з першым, Пушкін прызнаны ў Беларусі, яго карціны вісяць у галерэях, пра яго пішуць афіцыйныя газеты. Згодна з другім, ён бедны, збірае каля царквы міласціну. Ніводны прагноз не спраўдзіўся.

У 1997 у Алеся Пушкіна забралі мастацкую галерэю ў Віцебску. І з таго часу ён жыве ў Бабры. Тут пахаваны яго бацькі і дзяды. І яго гэтая энергетыка сілкуе. Тут жыве з жонкай Янінай і малодшымі дзецьмі Міколам і Марыляй. Тут ён стварыў сваю беларускамоўную сям'ю.

**Сяргей Макарэвіч**

**In memoriam**

# Януш Корбель, які быў волатам

Піша Міхал Анемпадыстаў.



Не стала Януша Корбеля. Ён быў адным з тых маральна-этычных волатаў, на якіх трымаецца белы свет. Чалавек, які быў адкрыты гэтаму свету, які найлепшую ягоную частку ў сабе і шчодра дзяліўся гэтым з іншымі. Чалавек цэльны, маштабны і адначасова просты. Цяжка патлумачыць веліч гэтай прастаты тым, хто не сутыкаўся з Янушам асабіста. Гэта тая шляхетная прастата, якая адрознівае позу ад сутнасці, думку ад рыторыкі, а дзеянне ад імітацыі.

Януш меў сяброў па ўсёй планеце, ад Аўстраліі да Грэнландыі, ад культавых постацяў у сусветных экалагічных рухах да нікому невядомых актывістаў з малазнаных краінаў, а сам жыў у Белавежы, па польскім баку пушчы, у старым драўляным доме, дзверы якога былі адчыненыя для сяброў і іхніх сяброў, а нават для сяброў апошніх.

Я пазнаёміўся з Янушам менавіта такім чынам, з перасадкамі і прыгодамі даехаўшы вечарам 31-га снежня да ягонага дома на ўскрайку Белавежы. У госці да Януша мяне запрасіў Зміцер Вайцюшкевіч, святкаваць Новы год разам. Я тады перапытваў Змітра, ці гэтак можна, ці зручна, бо ён мяне зусім не ведае. Зміцер адказваў станоўча. І сапраўды, да Януша можна было «проста так» — прыехаць, завітаць, заначыць. І потым, пацягваючы хатнюю наліўку, ці што там яшчэ, слухаць і размаўляць. Януш умеў слухаць. І яго хацелася слухаць.

Януш умеў спакойна і аргументавана выкладаць свае ідэі і натхняць імі іншых, умеў не паніжаць «градус» размовы, не апускацца да ўзроўню побытавых праблемаў, да асабістых амбіцый і крыўдаў. Усё тое, пра што казаў Януш, было аднолькава важным і ёмістым, складалася ў адну цэльную і гарманічную карціну сусвету, дзе людзі, іх культуры і мовы, жытло і рэчы перапляталіся ў адной прасторы з прыродай, дрэвамі і ўсімі жывымі істотамі.

Януш быў свядомым будыстам і паслядоўным актывістам філасофіі глыбокай экалогіі. Гэта была не поза, ён так жыў. Людзі з іх культурным даробкам — гэта безумоўная і галоўная вартасць, казаў Януш, але толькі адна з вартасцяў біяразнастайнага жыцця на планеце, у сучасных варунках мы адказныя за захаванне гэтай разнастайнасці, незалежна ад таго, «выгадна» гэта нам ці не, у стане мы зразумець усе сувязі і ўзаемазалежнасці гэтага свету ці гэтага нам не дадзена.

Мысліць глабальна, дзейнічаць лакальна — гэта пра яго. У свой час ён запачаткаваў рух у абарону ваўкоў, які выліўся ў сусветную кампанію падтрымкі і завершыўся перамогай. Апроч гэтага былі іншыя кампаніі і ініцыятывы, была шматгадовая і плённая праца грамадскага назіральніка ў навуковай радзе Белавежскага нацыянальнага парку, выкладчыцкая і публіцыстычная дзейнасць, некалькі кніжак, тэлесерыял пра Белавежскую пушчу, супраца з цэнтральнай і рэгіянальнай прэсай, у тым ліку беларускай.

Апошнімі гадамі Януш, архітэктар і урбаніст па адукацыі, быў захоплены канцэпцыяй экакультурнага краявіду, які ён разглядаў як самастойную каштоўнасць, як маркер тоеснасці і важны элемент непарыўнасці культурнай традыцыі. Заснаванае ім «Таварыства абароны краявіду» мае на мэце задачу комплекснага захавання традыцыйнага краявіду Падляшша, уключна з аховай мясцовай архітэктурнай традыцыі і яе элементаў, наданнем ахоўнага статуса адметным зонам, ландшафтам і нават паасобным дрэвам.

Каштоўнасць культурнай разнастайнасці была для Януша настолькі ж відавочнай і натуральнай, як і разнастайнасці прыроднай. Ён добра ведаў і цаніў беларускую культуру, быў выдатна абазнаны ў культуры польскай і сусветнай. Увогуле, мне падаецца, што Януш не заўважаў цяперашніх, шмат у чым штучных, межаў — яго аднолькава цікавіла і тое, што адбывалася па ягоны бок мяжы, і тое, што дзеялася на нашым.

У доме Януша неўпрыкмет узнікала адчуванне таго, што тут адзін з цэнтраў сусвету. Там заўсёды быў парадак. Кожная рэч на сваім месцы, і кожная дэталь невыпадковая. І нічога залішняга. Старая, цяслярскай працы мэбля, фіранкі на вокнах, грубка, душ з халоднай вадой, вялікі стол з ільняным абрусам ручное работы, дзве веранды — адна, зашклёная, у бок вуліцы, дзе чорныя мальвы і шыпшыны, другая, адкрытая, у бок парослай лугавым разнатраўем дзялкі, якая цягнецца ажно да берага ракі Нарэўкі.

За Нарэўкай, сярод старых дрэваў, цагляныя будынкі палацавага комплексу, за імі Царскі парк, за паркам — пушча. Януш жыў пушчай і яе ваколіцамі, ведаў кожны яе закутак па польскім баку, кожнае старое дрэва, ведаў іх вышыню, абхват і век. І шмат чаго яшчэ. Не думаю, што нехта ведаў пушчу лепей за яго, не думаю, што нехта прабыў-пражыў у пушчы (у самых яе нетрах) болей часу, чым ён. Улетку, увосень, узімку. Януш не толькі ведаў, ён разумеў лес і ахвотна тлумачыў яго іншым. Рабіў гэта проста і даходліва.

Як тады, у закрытым для турыстаў «сціслым рэзерваце» пушчы, куды ён вадзіў навучэнцаў Коласаўскага ліцэя. Дрэвы павінны паміраць, казаў ён. Некаторыя паміраюць доўга, іншыя, найчасцей асілкі-дубы, рынуцца долу ўвадначассе, гучна ўдараючы ў зямлю сваім каласальным цяжарам. У вывалены прасвет трапляе сонечнае святло, побач паваленага дрэва прабіваюцца маладыя парасткі — толькі так, пад бокам памерлага волата, яны маюць шанец вырасці да жыццяздольных памераў. Мёртвае дрэва яшчэ цягам некалькіх гадоў прыкрывае іх сваім целам, паступова ператвараючыся ў труху і ўтвараючы на паверхні тонкую праслойку ўрадлівай глебы. Смерць — гэта пачатак новага жыцця, казаў Януш.

Сціплы і шчуплы Януш быў, насамрэч, волатам. Сябры гэта ведалі яшчэ пры ягоным жыцці. І сышоў ён як волат, увадначассе. Так трэба. Каб даць шанец новаму. Я гэта разумею, але ад гэтага не лягчэй. Нам так моцна будзе цябе не хапаць, Януш.

# Пяць малавядомых фактаў пра Алега Трусава

Якога Лукашэнка марыць бачыць **кандыдатам у прэзідэнты**.

У інтэрв'ю журналістам недзяржаўных СМІ Лукашэнка колькі слоў прысвяціў Алегу Трусаву. Кіраўнік дзяржавы прызнаўся, што хацеў бы бачыць старшыню Таварыства беларускай мовы кандыдатам у прэзідэнты. Прапануем некалькі малавядомых фактаў з мінулага Алега Трусава.

### Мае асабісты фонд у Нацыянальным архіве

Фонд мае нумар 576 і ўтрымлівае матэрыял як асабістага (нават студэнцкі білет), так і грамадска-палітычнага характару. Там знаходзяцца каштоўныя дакументы, прысвечаныя гісторыі БСДГ, БНФ і апазіцыі ў Вярхоўным Савеце XII склікання, а таксама першым прэзідэнцкім выбарам у Беларусі ў 1994 г.

Акрамя Трусава, толькі Станіслаў Шушкевіч можа ганарыцца асабістым фондам (№599) у Нацыянальным архіве.

### Перамог міліцэйскага чына і партсакратара

22 студзеня 1990 г. Трусаў быў вылучаны кандыдатам у народныя дэпутаты радай ТБМ сталічнага Савецкага раёна. Але 25 студзеня 1990 г. Прэзідыум ВС БССР выдаў пастанову, паводле якой акруговыя камісіі мелі права дапускаць да ўдзелу ў выбарах кандыдатаў у дэпутаты ад Таварыства спажыўцоў, Беларускага экалагічнага саюза і Таварыства беларускай мовы толькі ў тым раёне, дзе гэтыя аб'яднанні былі зарэгістраваныя.

Пастанова парушала закон аб выбарах, але выбарчая камісія Мірашнічэнкаўскай акругі №33 у рэгістрацыі Трусаву адмовіла, бо ў Савецкім раёне аддзяленне ТБМ не мела рэгістрацыі. Трусаў аспрэчыў рашэнне ў Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў і дабіўся праўды.

По Мірашнічэнкаўскай акрузе №33 на дэпутацкі мандат прэтэндавалі 6 чалавек. Сярод іх трое былі моцнымі супернікамі Трусава: намеснік міністра ўнутраных спраў, прарэктар Радыётэхнічнага інстытута (цяперашні БДУІР) і сакратар райкама партыі Савецкага раёна.

У першым туры ўдзел узялі 16330 з 21695 выбарцаў. Алег Трусаў набраў найбольшую — 3725 — колькасць галасоў і ў другі тур выйшаў разам з намеснікам міністра Віктарам Кавалёвым (2721 голас). У другім туры на выбары прыйшлі 13717 жыхароў акругі, з якіх за Трусава прагаласавалі 6876.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Быў актыўным дэпутатам

У Вярхоўным Савеце Трусаў вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных зносінах. Сярод іншага, у сваёй уступнай прамове Трусаў прапанаваў разгледзець пытанне аб адкрыцці на Беларусі цыганскіх школаў. Але належнай колькасці галасоў яго кандыдатура не атрымала.

Тым не менш Алег Трусаў узначальваў парламенцкія камісіі. Быў намеснікам старшыні (Ніл Гілевіч) пастаяннай камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, узначальваў камісію па выпрацоўцы эталона Дзяржаўнага Герба, камісію па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў. Дарэчы, намеснікам Трусава там быў Віктар Шэйман. Камісія, сярод іншага, не падтрымала ініцыятыву МУС аб выкарыстанні пяціканцовай зоркі для знакаў адрознення афіцэрскага складу, прыняла прынцыповае рашэнне не ламаць герб БССР на Доме ўрада. Было вырашана накрыць яго большай «Пагоняй», што і здарылася 27 ліпеня 1994 г.

### Пікіраваўся з Лукашэнкам

Так, у красавіку 1992 г. Трусаў выказаў абурэнне наконт таго, што Лукашэнка часта выкарстоўвае тэрмін «мая гаспадарка» ў адносінах да шклоўскага саўгаса «Гарадзец», дзе раней старшыняваў. У адказ Лукашэнка параіў Трусаву самому з'ехаць у саўгас і «положить там молодость и здоровье».

### Перадугадаў палітычны курс

Трусаў быў адным з трох дэпутатаў, якія разам з Пазняком і Нятылькіным выступілі на інаўгурацыі Лукашэнкі. У сваім выступе Трусаў фактычна прадказаў сітуацыю, балючыя наступствы якой адбіліся праз два дзясяткі гадоў: «Непрымальнай з'яўляецца залежнасць Беларусі ад аднаго пастаўшчыка нафты і газу. Практычна ва ўсіх краінах свету ёсць некалькі крыніц энерганосьбітаў. Ліквідацыя манаполіі пастаўшчыкоў, пра якую толькі казаў, але нічога не рабіў урад Кебіча, застаецца найважнейшай задачай».

**Аляксандр Кур'яновіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт**



ЮРЫ СІДУН, GENERATION.BY

**У выходныя ў мястэчку Мір, пад сценамі найпрыгажэйшага беларускага замка прайшоў Mirum Music Fest — музычны фестываль на вольным паветры. Прыехалі некалькі тысяч моладзі, перад імі спявала грузінская джазавая легенда Ніно Катамадзэ, беларуская Shuma, выканаўцы з Украіны і Расіі.**

# У Зэльве адзначылі 105-годдзе Геніюш




Ушанаваць памяць выбітнай паэткі-патрыёткі Ларысы Геніюш у Зэльву прыехалі некалькі дзясяткаў чалавек. У мясцовай Свята-Троіцкай царкве адбылася памінальная багаслужба, якую ўжо традыцыйна ад некалькіх гадоў праводзяць у памяць пра паэтку. Даследчык Міхась Скобла (на фота) прэзентаваў новую кнігу пра Геніюш «Духу магутныя чары...». Гродзенская паэтка Данута Бічэль успомніла пра свае сустрэчы з паэткай. Пры царкве адбылася прэзентацыя кніжак, паэты чыталі вершы, выступілі барды. Пасля ўдзельнікі імпрэзы ўсклалі кветкі на магілу Ларысы і Янкі Геніюшаў на мясцовых зэльвенскіх могілках і разгарнулі нацыянальныя сцягі. Завяршылася ўрачыстасць канцэртам над Зэльвенскім вадасховішчам.

# Памяці Роберта Конквеста

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

3 жніўня ў Злучаных Штатах на 99-м годзе жыцця памёр Роберт Конквест, брытанскі гісторык-савецолаг, празаік і паэт. Роберт Конквест увайшоў у эліту міжнароднай супольнасці гісторыкаў сваёй працай «Вялікі тэрор. Сталінскія чысткі 30-х». Кніга выйшла ў 1968 годзе, калі наша ўвага была прыцягнута да Чэхаславакіі, дзе пачалася Пражская вясна; да Францыі, дзе адбываліся бурныя падзеі, неправамерна, па-мойму, названыя рэвалюцыяй (гэта была постмадэрнісцкая пародыя на рэвалюцыю, бо ў ёй не ўзяў удзел рабочы клас; потым многія «рэвалюцыянеры» сталі рэспектабельнымі буржуа); да Нямеччыны, дзе пачала сваю дзейнасць Фракцыя Чырвонай Арміі...

Ужо не памятаю, у які м годзе я пачуў праз глушылкі гэтае прозвішча — Конквест. Але яшчэ раней я пачуў прозвішча Салжаніцын і прачытаў «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». А яшчэ раней слухаў і чытаў інвектывы Мікіты Хрушчова на адрас Іосіфа Крывавага.

На шырокую грамадскую думку Захаду не паўплывалі публікацыі тых, хто прайшоў праз савецкія лагеры і турмы, у тым ліку нашага Францішка Аляхновіча, і ўцекачоў з Савецкага Саюза — такіх, як асабісты сакратар Сталіна Барыс Бажанаў і высокапастаўлены энкавэдыст Вальтэр Крывіцкі. Нават закрыты даклад Хрушчова на XX з'ездзе (змест яго хутка стаў вядомы і ў СССР, і ў Вольным свеце) ды інвектывы Хрушчова на адрас Сталіна ў наступныя гады, вынас цела Сталіна з маўзалея (1961), паўсюднае руйнаванне прыжыццёва пастаўленых помнікаў яму не ўчынілі перавароту ў грамадскай думцы Захаду. І праца Роберта Конквеста таксама.

Пераварот у грамадскай думцы Захаду ўчыніў «Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына.



Расійскі пісьменнік і даследчык паказаў тэрарыстычную сутнасць бальшавіцкага рэжыму на ўсіх этапах яго існавання.

І зробім тут істотную агаворку. Ведама, перасълед Аляксандра Салжаніцына савецкім рэжымам адыграў не апошнюю ролю ў тым, што «Архіпелаг ГУЛАГ» прыцягнуў увагу шырокай аўдыторыі. Але рэвалюцыйнае ўздзеянне гэтага даследавання было б немагчымае, калі б не было ўсіх папярэдніх публікацый, асабліва даклада і інвектываў Мікіты Хрушчова, калі б не было «Вялікага тэрору» Роберта Конквеста. Зноў жа, нельга не адзначыць, што ў Савецкім Саюзе «Вялікі тэрор» убачыў свет толькі перад самым яго сконам — у 1991 г., і не ў Маскве, а ў Рызе.

Можна толькі шкадаваць, што Р. Конквест даў сваёй кнізе загаловак «The Great Terror» (у перакладзе на расійскую «Большой террор»). Гэта дазволіла вялікай колькасці прасавецкіх і постсавецкіх гісторыкаў аднесці паняцце «вялікі тэрор» толькі на 1936—1938 гг. — на час маскоўскіх працэсаў і радыкальнай элімінацыі партыйна-савецкай эліты.

Насамрэч мы бачым у гісторыі бальшавіцкага рэжыму тры хвалі вялікага тэрору, або тры вялікія тэроры: перыяду грамадзянскай вайны, Кранштацкага, Тамбоўскага, Слуцкага ды іншых паўстанняў (1917—1921); перыяду суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, «ліквідацыі кулацтва як класа» і Галадамору (1930—1933); і перыяду суцэльнай ліквідацыі астаткаў апазіцыі і гвалтоўнай ратацыі партыйна-савецкіх кадраў (1936—1938), калі тэрор быў у значнай меры скіраваны супраць сяброў тэрарыстычнай партыі.

Пазней Р. Конквест выдаў працу «Жніво смутку: Савецкая калектывізацыя і тэрор голадам» («The Harvest of Sorrow. Soviet Collectivization and the Terror—famine». London. 1986), перакладзеную на ўкраінскую і расійскую мовы. Такім чынам, гісторык даследаваў і Другі (калі ісці ў храналагічным парадку) вялікі тэрор, калі бальшавікі ажыццяўлялі стратацыд (ліквідацыя сялянства як класа і ператварэнне яго ў клас калгаснікаў у маштабах усяго СССР) і генацыд (ліквідацыя асновы ўкраінскай — яшчэ пераважна сялянскай — нацыі). Даводзіцца шкадаваць, што гэтая праца «Жніво смутку» не бярэцца пад увагу, калі гаворка ідзе пра вялікі бальшавіцкі тэрор.

У сваіх працах Р. Конквест мала надаў увагі Беларусі. Але можна сказаць, што гісторыкі Беларусі адчулі калі не непасрэдны, дык апасродкаваны ўплыў брытанскага гісторыка. Расціслаў Платонаў, Уладзімір Міхнюк, Віталь Скалабан, Уладзімір Адамушка, Анатоль Вялікі, Міхаіл Касцюк ды іншыя нямала зрабілі для публікацыі крыніц і для асэнсавання таго, што чынілася цягам 1917—1939 гг. Нельга не адзначыць тут і працу Леаніда Маракова, які паказаў не толькі хвалі тэрору даваеннага часу, але і вялікі тэрор перыяду Другой сусветнай вайны (1939—1941) у Заходняй Беларусі ды вялікі тэрор 1944—1947 гг. Успомнім і арышты «паўторнікаў» — людзей, якія адбылі свае тэрміны, вярнуліся на радзіму і зноў былі зняволеныя.

На жаль, даследаванні ў гэтай галіне не ўхваляюцца і не заахвочваюцца афіцыйнымі інстытуцыямі Беларусі, таму не носяць сістэмнага характару. Тая праца, якую вялі Р. Конквест, А. Салжаніцын, вялі і вядуць нашы айчынныя даследчыкі, яшчэ далёкая ад завяршэння.

# Аднойчы ў СССР. Апёк

Піша **Сяргей Ваганаў.**



Пачатак жніўня. Спякота. Ізноў гараць тарфянікі, ізноў гарыць беларускі лес.

Пажар у маштабах краіны невялікі, але ўчэпісты: праз увесь спякотны тыдзень гарэлым тхне нават у Мінску, хоць гарыць пад Асіповічамі. Вось і звыклае — забарона наведваць лясы...

А мне згадаўся Папоў Барок, што ў Прыпяцкім запаведніку, 1984 год...

...—Бачыце каменьчык? — спытаў Вадзім Пятровіч і кінуў яго ў Бычок. Бруістае мелкаводдзе закалыхалася, затуманілася ўзнятым са дна пясчаным мулам, кінуліся ўрассыпную плотачкі і зніклі пад рабізной вады, што разышлася кругамі. Праз імгненне, аднак, усё вярнулася на кругі свае — і рыбы, і воды, і цёплы сонечны блік. Тады Вадзім Пятровіч падняў і кінуў у Бычок другі каменьчык. І зноў разышлася кругамі вада, робячы дробным блік, сціскаючы вузкія берагі...

—Дык вось, — Вадзім Пятровіч абапёрся на парэнчыны хісткага мастка, — ёсць адзіны спосаб не парушаць экалагічную раўнавагу — перастаць кідаць камяні...

Размова наша пачалася па сутнасці з трагедыі, што разыгралася тут, ля Папова Барка, у маі, калі, нібы падпалены з усіх бакоў, шуганіў пажарам запаведны палескі лес.

Папоў Барок быў малой часткай таго, што згарэла на беларускім Палессі ўвесну 1984. Гарэлі тарфянікі, балоты, пасевы, гарэлі лясы. Леснікі, навукоўцы, работнікі міліцыі і пракуратуры, службовыя асобы на розных пасадах і палескія старажылы сцвярджалі, што нічога падобнага па маштабах не ведалі, не бачылі і не памяталі. Пяць тысяч толькі лясных пажараў, амаль чвэрць ад усіх лясных пажараў, што здарыліся на той год ва ўсім СССР.

Увесну 1984 года беларускі лес нагадваў дровы, кінутыя ў дачырвана распаленую печ. Асабліва на Палессі, дзе яшчэ з восені сышла на зямлю вялікая суш. З гэтай сушшу пайшлі ў маласнежную зіму, а з зімы — у цёплы сакавік, гарачы красавік і распалены май. Павысыхалі калодзежы, змялелі рэкі і ручаі, старыя і новыя меліяратыўныя каналы, праходнымі сталі некранутыя меліярацыяй балоты, а кранутыя ператварыліся ў тарфяны пыл. На лугах і сенажацях агаліліся пажухлыя мінулагоднія травы, зжаўцела вясенняе лісцё на бярозах, і мроілася распаленае смалістае паветра ў сасновых лясах.

«Вада сышла ў апраметную», — так, губляючы гук з перасохлага горла, вымавіў Мікалай Бусько, тагачасны старшыня Жыткавіцкага райвыканкама. Што ж, падумаў я, цалкам палескі выраз. З той толькі розніцай, што «апраметная» на Палессі заўжды поўнілася жывой, як у казаннях, вадой.

Вось і ўсё пра надвор'е, пра стыхію, пра анамалію. Астатняе — пра чалавека.

Пра беларускага чалавека ва ўмовах БССР-СССР...

Сёння шмат хто нават з моладзі лічыць, што ў тых умовах існаваў «жалезны парадак», што дзяржаўная машына прадухіляла і хутка выпраўляла ўсе хібы гаспадарання і жыцця.

Чаму ж «жалезны парадак» не ўтрымаў СССР?

У кожнага свае тлумачэнні. Мае — у падзеях, што адбываліся ў зніклай краіне. Якая тады яшчэ не развальвалася, толькі гарэла.

Чую пярэчанні: прычым тут СССР? Лясы гараць па ўсёй планеце. Але толькі ў СССР магчыма было пачуць тое, што пачуў тады ад кіраўніка аднаго з раённых сельгасупраўленняў: «Ды што гэта вы ўсё лес, лес?! Вырасце. Вунь яго яшчэ колькі! Зразумейце, не спалім мінулагоднюю — новая трава не ўзрасце. Кармоў не далічымся, мяса, малака... У чым сёння больш патрэбы: у лесе, які сам расце, ці ў мясе, якога не хапае?»

Старшыня калгаса «Рассвет», што ў Ганцавіцкім раёне, раздаў школьнікам дзве сотні пачак запалак, каб палілі леташнія сенажаці. Іх былі дзясяткі, кіраўнікоў палескіх гаспадарак, што аддавалі падобныя загады, а дзе і самі «скакалі» па лугах на «Нівах» з запаленым квачом у руках...

Яны што, дурныя былі, тыя старшыні? Не, гэта быў такі «жалезны парадак» гаспадарання: адны паляць, другія гасяць, а ўлада вырабляе кіламетры і тоны папер.

Не хопіць старонак пералічыць усе пастановы, тэлеграмы, загады, рэзалюцыі з усёй уладнай вертыкалі і гарызанталі. Я збіўся з падліку, калі запісваў за В. Раманоўскім, тагачасным намеснікам міністра лясной гаспадаркі, прафілактычныя мерапрыемствы. Потым падлічыў — звыш за два дзясяткі...

А лясы гарэлі. Гарэлі амаль тры месяцы.

Дык вось, пра чалавека.

У тым, што чалавек — галоўны падпальшчык лесу, асаблівай навіны няма.

Мы звыкла кідаем стрэлы ў турыстаў, грыбнікоў, аматараў загарадных гульбішчаў... Якое вогнішча? Недакурак, шкло ад бутэлькі, што папала пад сонечны прамень — вось вам і фокус. Але фокус у тым, што стрэлы ляцяць у пустату. Застаючыся не злоўленым, гэты род падпальшчыкаў уяўляе з сябе істоту міфічную. Статыстыка іх не ўлічвае, колькасць пажараў, што ўзнікаюць па іх віне, аналізу не паддаецца. «Пераважная большасць» — вось і ўвесь аналіз. Адзінае выйсце — забарона наведваць лес.

І тады, у 1984-м, як і сёння, такая забарона была.

А лес гарэў...

—Што гэта ў вас з рукой?

—Ды так, невялікі апёк... Вось, глядзіце, — палкоўнік В.Каханскі, начальнік Упраўлення пажарнай аховы МУС БССР здаровай рукой разгарнуў ёмістую папку, — толькі органы ўнутраных спраў аштрафавалі 276 чалавек. Амаль усе — службовыя асобы. Я сам пяцярых аштрафаваў, па сотні на брата...

Што праўда, да той вясны і я лічыў, што гарачы след у лесе пакідаюць зборшчы людзі, якія забыліся на свае карані. Гэта яны прыдумалі выраз «на ўлонні прыроды», не разумеючы, што прырода і ёсць улонне, з якога нарадзіўся Чалавек. Паклон, пакланенне — словы аднаго з улонным кораня.

А тут раптам зразумеў, што справа не толькі ў бадзяжным, так бы мовіць, элеменце, а і ў чалавеку, які жыве і працуе не на прыродзе, а ўнутры яе, унутры ўлоння. Чалавеку-работніку. На тысячы выпадкаў пажараў — сотні прозвішчаў.

—Увогуле, — працягваў галоўны пажарны рэспублікі, — лясныя пажары не па нашым ведамстве, па лясным. Нам тарфянікі, сельгасугоддзі падкантрольныя, лясы — леснікам. Толькі ж агонь не выбірае, па якім ведамстве гарэць. Аштрафавалі мы, напрыклад, дырэктара саўгаса «Прагрэс» Салігорскага раёна Бондара за тое, што загадаў выпаліць на сенажацях мінулагоднюю траву. Думаеце, толькі трава згарэла? Лес, 35 гектараў. А вось яшчэ адзін штрафнік, Акулаў, начальнік ПМК з «Галоўпалессеводбуда». Гэта ўжо меліяратары. Сцягваюць з тарфяных палёў усе дрэўныя рэшткі, розныя там карчы, пні, карэнішчы, у так званыя лоўжы, валы. И падпальваюць. Гэтыя лоўжы гадамі гараць, патушыць іх практычна немагчыма. Уявіце заўсёдную крыніцу агню даўжынёй два кіламетры, пяць метраў вышынёй і дзесяць шырынёй. А вакол торф, лес... Які сэнс? Яны такім чынам сабекошт зніжаюць...

Пазней я даведаўся, што такая, з дазволу, тэхналогія забаронена — дрэўныя рэшткі неабходна закопваць. Але што з таго? Пралезлі ў шчыліну — паліць з лістапада да сакавіка, пад снегам не страшна.

Першыя пажары-84 пачаліся ў сакавіку.

—Ага, прадухіліць... Вы бачылі верхавы агонь? — спытаўся палкоўнік Каханскі. — Аніякай сілай яго не ўтрымаць, толькі сустрэчны адпал. Думаеце, гэта так проста? Інстытут трэба заканчваць, каб ведаць, што з гэтым адпалам рабіць. А! — палкоўнік у роспачы махнуў рукой. — Прычым тут інстытут?! Па ўсім Палессі шквалістыя вятры, вы — агонь на агонь, а ён — на вас...

Не, я не бачыў верхавы агонь. Я бачыў, што ад яго застаецца —

## Яны што, дурныя былі, тыя старшыні?

немагчыма апісаць тую карціну. Я бачыў людзей з пацямнелымі тварамі, не здольных і слова вымавіць без дрыжання ў голасе і сардэчнай пакуты ў вачах. Я слухаў іхнія аповеды — дзясяткі эпізодаў сапраўднага гераізму, адвагі, самаахвярнасці... У Жыткавічах ці не ўвесь раён падняўся на барацьбу з пажарамі, старшыня райвыканкама, калі хто марудзіў, сам адчапляў трактары ад сеялак, накіроўваючы тэхніку на тарфянікі, у лес — у агонь...

А ў суседніх Лельчыцах — пасяджэнне за пасяджэннем, пастанова за пастановай... У выніку леснікі засталіся сам-насам з вогненнай навалай. Чаму так, патлумачыў Хламаў, інжынер па ахове лесу з Лельчыцкага лягсага: кожнаму сваё. І сапраўды, у кожнага свая рацыя: у меліяратараў, землярobaў, лесарубаў — яны таксама чырвонага пеўня ў лес пусцілі... І што ні рацыя, то карысць, і не для сябе быццам, а грамадская... Ведаеце, хто акрамя пажарных і леснікоў адчайней за ўсіх з агнём змагаўся? Зборшчыкі жывіцы. Яно і зразумела — з кожнай сасны жывая капейка. Здавалася б, і лесарубам. Але ж не. Дасведчаныя людзі казалі, што лесарубам нават выгадна, каб лес падгарэў, толькі не дарэшты. Тады і гарэльнік — пад сякеру, пад звышплан, значыць, пад прэміі...

Ведамаснасць — карэннае зло сацыялістычнага гаспадарання. Горш за сякеру біла па лесе, значыць, па дзяржаве — агнём, узрушэннем для ўсяго прыроднага арганізма. То бок па тым жа лузе, ды па тым жа полі, ды па той жа рачулцы, з якой луг і поле спаталяюць смагу, ды па тым жа балоце былым, з якога вецер, калі не будзе лесу, імгненна ўсю ўрадлівасць здзімае... Значыць, і па мясе біла, і па малацэ... А што там да птушак розных, дык птушкі тыя, каторых цягне да родных мясцін, доўга па той вясне над чорнымі пралысінамі кружылі, вушы закладала ад іх крыку... З тым крыкам і адляцелі.

Ну, а што ж праваахоўнікі — міліцыянты, пракуроры, судзі — вартавыя «жалезнага парадку»? Што яны рабілі, калі гарэў дзяржаўны лес? Анічога, калі не палічыць працай намаганні ўсяляк ад яе адкруціцца. Вось лічба: пяць тысяч пажараў і... 14 спраў па спагнанні шкоды. Крымінальнай — аніводнай.

Што ж выходзіла? Здзейсненая ў маштабе ўсёй рэспублікі злачыннасць, за якую ніхто не быў пакараны. Штрафы? Але ж штрафы — гэта не за пажар пакаранне, за парушэнне элементарных правілаў.

...—Бачыце каменьчык? — спытаў Вадзім Пятровіч і кінуў яго ў Бычок.

Мы стаялі на хісткім мастку, і Клакоцкі, намеснік дырэктара Прыпяцкага запаведніка па навуцы, прыгадваў, як прарываўся на машыне праз суцэльную заслону агню, і не здольны быў яго апярэдзіць — з такой моцай і хуткасцю імчаў ён па абодва бакі канала і старога брукаванага тракту. Як падалі, знясілўшыся, людзі, паўзлі да Бычка, каб, акунуўшы галаву ў пацямнелую ваду, ізноў падняцца і, хістаючыся, з памутнелым позіркам, ізноў рушыць на агонь... Як успыхнуў лес на ўзгорку паблізу Папова Барка, і яны намагаліся пераправіць трактар з бочкай праз Бычок, трактар заграз, і раптам на ўзгорку пачалі ўзрывацца снарады і міны — падчас вайны тут стаяў фронт. Як выстаялі шэсць колаў абароны і выратавалі пчальнік — паспелі вывезці пчол і спыніць агонь за некалькі метраў ад вуллёў. Як выбеглі на ўзгорак воўк з ваўчыцай — «у мяне халадок прайшоў па спіне» — і завылі, а за імі, уголас, жанчыны, пакуль усё не злілося ў адно з агнём працяглае страшэннае выццё...

Падышоў Іван Іванавіч Торчык, дырэктар запаведніка.

— А лосі вярнуліся, Іван Іванавіч, сам бачыў, — абрадаваў Клакоцкі.

— Ага, — усміхнуўся Торчык, — і сасна дзе-нідзе ажывае. Вось толькі Папоў Барок. Такі нечаканы апёк!

Не павінен быў гарэць Папоў Барок. Балота ўсё ж, на якім магутны лес вымахаў. Нават у запаведніку такіх балот мала. А тут на табе — ні балота, ні лесу. Усё высахла перад тым, як згарэць.

—А мо і нічога? — спытаў я. — Мо ўсё адродзіцца? Вось і лосі вярнуліся, і плотачкі ізноў гарэзнічаюць...

Вось тады Клакоцкі хмыкнуў у бараду, падняў каменьчык і кінуў яго ў Бычок.

Упёрты, аднак, Бычок: гамоніць, бяжыць, звініць мелкаводдзем. Але і да сёння, праз 30 гадоў, чую той кароткі рэзкі ўсплёск.



**Сяргей Ваганаў**

Нарадзіўся ў 1941 у Казані. Скончыў гістфак БДУ (1963). Працаваў настаўнікам у Браслаўскім раёне. Журналістам у «Чырвонай змене», «Сельской газете», «Знамені юності». Ад 1976 — уласны карэспандэнт газеты «Труд» у Беларусі». Ад 2001 да 2007 — галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларусі». Сузаснавальнік БАЖ. Сталы аўтар «Нашай Нівы».


ФОТА ЯКУБ СУШЧЫНСКІ

**Якім можа быць нацыянальны строй для беларускіх школьнікаў паказалі ў Гродне мадэльеры Алёна Маркоўка і Наталля Кажушкова з мінскай майстэрні *Elen-Carotte.* Пра мэту майстэрні расказвае Алена Маркоўка: «Увядзенне ў штодзённасць беларускага строю, яго развіццё, каб людзі маглі адчуваць сябе беларусамі ў кожным моманце свайго жыцця. Таму мы прапануем цэлую лінейку вопраткі — ад немаўлят да самых старых. Адна з ідэй — гэта школьная форма, што ўжо цяпер вельмі актуальна».**



**Біятланісты Дар'я Домрачава і Оле-Эйнар Б'ёрндален наведалі таварыскі матч «Валерэнгі» і мадрыдскага «Рэала» ў сталіцы Нарвегіі. СМІ даўно пішуць пра рамантычныя адносіны паміж Домрачавай і Б'ёрндаленам.**




**У Магілёве адбылося асвячэнне Спаса-Праабражэнскага храма. Чын асвячэння здзейсніў Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел. У царкве адначасова змогуць знаходзіцца 3,5 тысячы вернікаў. Будынак дасягае 60 метраў у вышыню. Гэта самы вялікі праваслаўны храм у краіне.**




**«Х.. родине». Журналісты рэчыцкай раёнкі «Дняпровец» хацелі як найлепш, а выйшаў смех. Кіроўца Андрэй Анікеенка адным з першых у Гомельскай вобласці перавёз у сховішча тысячу тонаў збожжа.**



**Каля 100 гасцей вымушаныя былі бегчы з кавярні Tatjanos dvaras («Таццянін двор») у віленскім прыгарадным пасёлку Вайдоты — падчас навальніцы маланка ўдарыла ў дах будынка. У кавярні ў той момант адбывалася вяселле. Паводле папярэдніх звестак, ніхто не пацярпеў.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Расія, 2015 год.

– Эканоміка абвальваецца, рубель падае, за рысай беднасці 22 млн чалавек... Што будзем рабіць?

– Давайце 10 тон сыру катком пераедзем.

– Давайце.

* * *

Новая карціна: «Іван Грозны забівае свайго сыра».

* * *

Разумнікі, што раяць выйсці з зоны камфорту, каб пачаць жыць, растлумачце, калі ласка, спачатку, як туды патрапіць.

* * *

Мае равеснікі ў дзяцінстве марылі стаць касманаўтамі, а я аб велізарным канструктары «Лега». Учора я яго купіў, а яны так і засталіся няўдачнікамі.

* * *

Дзяўчаты, у якіх чыстыя ногі, без адзінага сіняка і ўкусу камара, без драпін і шнараў на каленях, як вы забаўляецеся наогул?

* * *

Жыццё занадта кароткае, каб запраўляць за сабой ложак.

* * *

– Што вам прынесці?

– Я буду латэ макіята.

– А мне махіта з лёдам.

– Мне яблычны смузі.

– А мне піва і трох, блін, новых сяброў, калі ласка...

* * *

Раніца. Панядзелак. Начальнік пытаецца:

— У цябе вочы чырвоныя. Піў, ці што?

— Не! Па працы сумаваў, плакаў!

* * *

У супермаркетах, па вялікім рахунку, прадаюць толькі дзве рэчы: мяшкі для смецця і смецце для мяшкоў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Скасаванне незалежнасці Албаніі.** У Петраград вярнуўся расейскі генеральны консул у Албаніі і прадстаўнік міжнароднай камісіі, Пятраеў. Як кажуць, Пятраева вярнулі з дарогі па той прычыне, што цяперака прызнана непатрэбным мець асаблівага дыпламатычнага прадстаўніка ў Албаніі, каторая ўжо не мае ніякіх адзнак незалежнай дзяржавы.

**«НН». №29—30. 1915.**

**Бура 9 жніўня была такой сілы**, што ўпершыню за пяць гадоў перарвалася трансляцыя Беларускага тэлебачання. 68 раздушаных аўтамабіляў толькі ў Мінску! Без святла сядзела чвэрць краіны. У населеных пунктах упала не менш за 1500 вялікіх дрэваў.

**«НН». №30. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 11.08.2015.
Замова №3164.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15030